PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 27 (2095) Год XLI Беласток 7 ліпеня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*Гульні купальскай ночы.* Фота з АРХІВА

Хто крадзе ў САМах?

## Крадзе той, хто мае грошы

Ада Чачуга

Здаецца, усё так проста: падысці да тавару, „незаўважальна” ўзяць што трэба, укінуць у сумку ці кішэнь, заткнуць за рамень, або ўкінуць у штаны, калі яны вузкія і ёсць надзея, што тавар не выпадзе з калашыны. Некаторыя дзеля гэтага робяць у вопратцы спецыяльныя кішэні.

Кожнаму злодзею здаецца, што яму ўдасца. Іншага зловяць, але не яго! Не верыць у тэхніку. Думаюць, што ўдасца ім ашукаць зоркае вока камеры, якое заўсёды дакладна пакажа на экранах, што робяць у зале пакупнікі.

Мушу прызнацца, што асабіста не прападаю за самаабслуговымі крамамі. Не люблю купляць, ведаючы, што я „пад абстрэлам”. Зверху магнетавіды, побач — прадаўшчыцы, якія, нібы кладучы тавар, патаемна сочаць за кожным маім рухам... Ведаю, аднак, што САМы — гэта будучыня нашага гандлю. Так ёсць на Захадзе, так будзе і ў нас.

Віктар Гюго, вядомы французскі пісьменнік, лічыў, што чалавек, які крадзе булачку, гэта не злодзей. Ці ў нашых самаабслуговых крамах крадуць людзі галодныя?

Адкуль жа?! — усклікаюць працаўніцы самаабслуговай крамы „Апалак”, што на вул. Кюры-Складоўскай. Калі мы ловім злодзея, які ўкраў дзве найтаннейшыя булачкі, значыць, ён проста галодны, а не мае ані граша. Няраз мы дамо яму яшчэ кавалак сыру ці пару скрылёчкаў каўбасы, каб не еў сухія булкі.

А хто са зладзеяў бывае найчасцей галодны? Беспрацоўныя?

Беспрацоўныя, рабочыя — таксама. Яны чамусьці найчасцей крадуць кансервы. Мо каб было сытней і штосьці каштоўнае. Другая група — студэнты ў канцы месяца, перад стыпендыяй. Адну студэнтку, будучую юрыстку, злавілі на гарачым учынку і найперш пачалі яе сароміць. Чаму вас там вучаць, у гэтым універсітэце? А яна, без ніякага сораму: „Вучаць, каб я магла бараніць такіх, як я”. Брава! Іншыя тлумачацца: „Чаго вы прычапіліся, гэта ж дзяржаўнае, а не ваша! Дзяржава мяне абкрадае, дык і я магу!”

А наогул дык як які тыдзень. Часам крадуць адны вышэйшыя сферы. Сярод зладзеяў сустракаюцца настаўнікі, лекары, медсёстры... Калісь злавілі жонку суддзі, таксама пару журналістаў (спецыялізуюцца чамусьці ў масле, тлумачыліся, што выпадкова ўкінулі яго ў кішэнь). Здаецца, гэтыя людзі не павінны красці, хаця б ім і бракавала грошай. А яны якраз крадуць найбольш і найчасцей. Нядаўна злавілі ў краме зладзейку, якая ўкрала тавар на 36 зл. Не былі гэта танныя рэчы: вэнджаная ляжка індыка, чатыры дарагія шакалады (па 4 зл. штука), араматныя пліткі „Domestos” для туалета і іншыя прывабныя рэчы. А што гаварыла, калі яе злавілі? Хацела зрабіць неспадзеўку дзецям!

Або муж з жонкай панабіралі ўсякіх дарагіх шампуняў, касметыкі і іншых рэчаў, усё было найлепшага гатунку, вельмі дарагое. Ну, злавілі іх, а яны рагочуць і тлумачацца: пайшлі ў заклад, што ўкрадуць і вынесуць... Ну, а калі б не злавілі іх, дык нехта мусіў бы за гэты тавар плаціць, — уздыхаюць змучаныя прадаўшчыцы. **Крадзе той, хто мае грошы. Не крадуць яны з бяды...** Лепшыя, даражэйшыя рэчы крадуць найчасцей.

Розныя ёсць спосабы, каб узбагаціцца, узяць дармовае. Няважна, што могуць злавіць, нарабіць клопатаў. А калі ўдасца?! Некаторым гэткія эмоцыі, відаць, проста неабходныя, каб жыць. Украсці — гэта для іх гераічны ўчынак, амаль подзвіг.

Немец у час акупацыі за гандаль мясам, які быў забаронены, караў нават расстрэлам, а ўсё роўна людзі цягалі мяса з вёсак. А што сёння?! Кары за крадзеж цяпер абсалютна несуразмерныя з яго грамадскім значэннем як фактара маральнага ўпадку чалавека.

Калі злодзей украў каштоўны тавар, дырэкцыя САМа кіруе справу на судовую калегію. Пра дробны крадзеж толькі паведамляе на месца працы злоўленага на гарачым учынку чалавека. Кара, як відаць, невялікая, але сораму можна наесціся. Не кожны аднак мае сорам.

Вельмі часта крадуць у САМах дзеці. Праўда, найчасцей бяруць яны

*(працяг на стар. 9)*

## У галаве адно сена

Пасля дзесяці гадоў гарадской школы і шасці — працы, забываешся на самыя простыя з'явы ў прыродзе, перастаеш заўважаць нават змены пораў года. Выезды на вёску да бацькоў — аказіянальныя і не запаўняюць таго разрыву з натурай.

Як нешта нечаканае, неверагоднае паражыў я нядаўна надыход навальніцы на сенажаці.

Зграбалі сена. Уручную, як мала ўжо хто. Некалькі гадзін няспешнай, але натужлівай працы змаглі непрывычнага гараджаніна і ўцягнутых, але нямоглых ужо старых вяскоўцаў. Селі палуднаваць, не так ад голаду, як дзеля адпачынку. Лёгкі ветрык асвяжаў, хіліў на сон, але ж чакала ссунутае ў валкі сена. Крыху зеленаватае, каб звозіць у клуню, дык трэба было яго скінуць у капіцы.

Толькі ўзяў я вілы ў рукі, як пачуў першыя трывожныя прыкметы. Вецер спачатку сціх, а зараз потым пачаў дуць з другога боку, паветра пашарэла. У кутку неба паявілася цёмная пляма, якая ў імгненні вока павялічвалася. Як піць даць стала ясна — змочыць і нас, і недагрэбенае сена. Нават каб бягом насіў сена ў капіцы, хмара і так прыбліжалася хутчэй, чымсьці канец працы.

Злосць мяне закалаціла. Увесь дзень змарнуецца. Спецыяльна ехаў, каб у нечым дапамагчы. Быццам бы нешта рабіў, нават стому адчуваеш, а тут во табе і на — насунецца хмара і ўвесь высілак аберне ні ў што. У наступныя дні прыехаць не змагу, а бацькам, хоць зарэжся тут.

Неўзабаве пакрапіла. Кінуў я вілы аб зямлю. Хоць ты, сеўшы, плач. Але тут, быццам на суцяшэнне мне, усё скончылася ано на некалькіх кроплях. Хапаючыся за дадзены шанц, давай я ўдвая хутчэй махаць нескладаным прыладай.

Суседзі, да якіх падаспела падмога, якраз канчалі капічыць. Мне пот выядае вочы, не паспяваюць за мною грабельнікі, а па-суседску сабе памаленьку сям-там папраўляюць капіцы або падымаюць раскіданыя ветрам сцяблінкі сена. Калі селі яны, хто на трактар, а хто на ровар, зноў стала крапіць. Мільганула надзея — не, не дадуць прападаць суседскай працы, напэўна затрымаюцца каля нашага луга. Вось мы грамадою ўмомант справімся і тады няхай ліе. Але суседзі памаленьку праехалі ля нас, нават не кінуўшы „памагай Бог”. Зрэшты, мы іх на абед таксама не прасілі.

Дождж у гэты дзень стрываў да вечара. Яшчэ некалькі разоў патрусіў трошкі, так і не запыніўшы нашай працы. Хмара пайшла бокам.

* * *

Навальніца ўсчалася ноччу. Праз наш луг прайшоў сама менш ураган. Усе капіцы перавярнула і разнесла. Калі пішу гэтыя словы, увесь тыдзень, дзень у дзень, ідзе дождж. Паводле тэлевізійнага прагнозу, надвор'е ў бліжэйшыя дні не зменіцца.

У мяне ў галаве адно сена.

Кулаш

# Мы прачыталі

*Polowanie na sarny i daniele z udziałem wysokich urzędników z Ministerstwa Ochrony Środowiska, w tym wiceministra, przewodniczącego Polskiego Związku Łowieckiego, dyrektora generalnego Lasów Państwowych, parlamentarzystów i zagranicznych gości odbyło się w Złotowie w obwodzie zamkniętym w okresie ochronnym dla znajdujących się tam zwierząt. Polowanie w tym okresie to najzwyklejsze kłusownictwo — przestępstwo kryminalne. Kłusownikami zaś okazali się ludzie, którzy z racji zajmowanych stanowisk winni zwalczać kłusownictwo, dbać o las i zwierzynę.*

*Gazeta Wyborcza, nr 137*

* * *

*Stocznia Gdańska należy do kategorii socjalistycznych mastodontów, nie potrafiących się przystosować do nowych warunków. Ponadto pracuje tam wielu ludzi gotowych do strajku, co stwarzało każdemu rządowi niewygodną sytuację. Kolejne rządy bały się — obecny też się boi — „zorganizowanych oddziałów klasy robotniczej" żyjącej z państwowych dotacji, co gotowe są różnymi sposobami starać się o kolejne pieniądze z kasy podatnika. Ten strach jest silniejszy niż pragnienie pozbycia się uciążliwego balastu. W ten sposób tworzy się czarna dziura, wysysająca pieniądze.*

*Wprost, nr 25*

* * *

*Chcemy tylko, żebyście zachowali tożsamość narodową — apelowali do białostockich Białorusinów Siemion Szarecki i Piotr Krauczenka.*

*Kurier Poranny, nr 144*

Пусть будет!

* * *

*Od 1 lipca żaden obywatel naszego państwa nie będzie mógł wyjeżdżać poza jego granice bez zezwolenia władz. Wszyscy wjeżdżający będą też pod kontrolą — zapowiedział prezydent Białorusi Aleksander Łukaszenko.*

*Gazeta Wyborcza, nr 143*

Да, парадак должэн быць!

* * *

*Samoobrona Andrzeja Leppera szykuje się do wyborów parlamentarnych. Jak zapowiedział przewodniczący, jego partia przyłączy się do innej partii prawicowej, gdy będzie je łączyć trzecia droga, czyli elementy kapitalizmu i socjalizmu w walce o sprawiedliwość społeczną.*

*Polityka, nr 25*

Цешыць вестка, што Лепэра хаця на пару хвілін пабачым у тэлебачанні. Нейкае нуднае палітычнае жыццё без гэтага сучаснага Сценькі Разіна!

* * *

*Mobutu, prezydent Konga, był przeciętniakiem. Jednak nikt tak jak on nie pragnął władzy. W latach sześćdziesiątych, dowodząc armią Lumumby, zdradził swego mocodawcę, uwięził go i zgładził. Jako prezydent niczym specjalnie się nie wyróżniał. Robił to, czego chcieli od niego Amerykanie. Na początku lat 70. nastąpiła w Mobutu nagła zmiana. Zapadł na manię wielkości. Zaczął zachowywać się jak nawiedzony mesjasz. Uwierzył, że jest stworzony do zrealizowania jakiejś wielkiej misji. Dzień własnej intronizacji uczynił Mobutu punktem zerowym w dziejach własnego państwa. Rozpędził partie polityczne, które uznał za źródło wszelkiego zła. Utworzył własną, jedyną legalną — Ludowy Ruch Rewolucyjny, do którego mieli należeć wszyscy bez wyjątku Zairczycy. Nakazał zmienić nazwę państwa. Kongo stało się Zairem. Poddanym kazał zmienić stroje i imiona z europejskich na afrykańskie. W rodzinnej wiosce w środku dżungli wybudował pałac, porównywalny pod względem wspaniałości do Wersalu. Składając wizytę na Florydzie wynajął sto pokoi w luksusowym hotelu dla swojej świty. Do Ameryki przybył wyłącznie w celu obejrzenia Disneylandu.*

*Gazeta — Magazyn, nr 24*

Дзеля абмену дасведчаннямі спадар Мабуту мае намер скласці візіт у Менску і правесці размовы са спадаром Аляксандрам Рыгоравічам.

* * *

*Życie polityczne w Polsce toczy się pod hasłem: „Ziemia dla chłopów, fotele dla PSL". Ubiegłoroczna koniunktura gospodarcza przyniosła dziesięcioprocentowy wzrost dochodów realnych rolników. Byłby to powód do zadowolenia, gdyby dokonało się to poprzez wzrost wydajności, postępy w specjalizacji i technice. Stało się to głównie dzięki wzrostowi cen żywności, przepompowywaniu pieniędzy od jej konsumentów. Ceną, jaką trzeba będzie zapłacić za poselsko-senatorskie i ministerialne godności chłopskich polityków, będzie bardzo wysoka.*

*Polityka, nr 25*

* * *

*Куды падзелася золата партыі,* — неразважліва пытае газета

*Звязда, н-р 128*

* * *

*Nie istnieje bezpieczny seks w życiu biurowym,* — інфармуе

*Wprost, nr 25*

Безумоўна, мэбля сёння такая недалікатная. А прытым што можна рабіць на стале, заставеленым камп'ютэрамі, прынтэрамі ды іншым „барахлом"!

# З мінулага тыдня

**Румынскія цыганы**, якія гадамі качавалі над Віслай у Варшаве, былі затрыманы паліцыяй і дэпартаваны з Польшчы. Варшаўскі ваявода выдаў у паскораным парадку 73 дэпартацыйныя пастановы для 113 чалавек.

**Варшаўскія парламентарыі ад Уніі вольнасці** выказалі пратэст супраць скандальнай, на іх думку, ліквідацыі цыганскага качэўя ў Варшаве. Паліцэйскую акцыю, у выніку якой былі дэпартаваны з Польшчы румынскія цыганы, парламентарыі назвалі „жорсткім парушэннем правоў чалавека, якое перашкодзіць Польшчы ў інтэграцыі з Еўропай". Віцэ-маршалак Сената **Зофія Куратоўска** абвінаваціла паліцыю ў грубых паводзінах і прымяненні сродкаў несуразмерных да склаўшайся сітуацыі. Парламентарыі заявілі, што звернуцца да ваяводы і Міністэрства ўнутраных спраў з патрабаваннем дэталёва высветліць акцыю выдварэння цыганоў.

**У Вышэйшай школе фінансаў і кіравання** ў Беластоку адбыўся двухдзённы семінар, у якім прымала ўдзел больш за сто навукоўцаў з Польшчы, Літвы, **Беларусі** і Турцыі. Д-р **Бяляцкі** з Менска гаварыў аб развіцці свабоднага рынку і прадпрымальніцтва ў Беларусі. Сказаў ён таксама, што павялічваецца колькасць замежных фірм, якія рашаюцца інвеставаць у Беларусі, а найбольшую актыўнасць у гэтай справе праяўляюць прадпрыемствы з Польшчы. На агульны лік 1883 суполак з замежным капіталам 564 — гэта фірмы з удзелам палякаў.

**Беластоцкая „Салідарнасць"** аховы здароўя правяла акцыю пратэсту. На будынках бальніц і амбулаторый з'явіліся сцягі, а супрацоўнікі і пацыенты былі інфармаваны аб мэтах пратэсту. Прычынай акцыі было невыкананне ўрадавым бокам зарплатных пагадненняў (у ліпені сярэдняя зарплата мела павысіцца на 74 зл., але ўрад вырашыў дабавіць толькі 42 зл.).

**VII Сакольскі арыент** — так называлася чарговая сустрэча польскіх татараў, якая адбываецца кожныя тры гады ў Сакольцы. Падчас папулярна-навуковай сесіі ўдзельнікі мерапрыемства заслухалі даклады пра татарскае асадніцтва на тэрыторыі Рэчы Паспалітай і Вялікага княства Літоўскага, а таксама пра розныя аспекты жыцця татараў у Польшчы. У сесіі прымала ўдзел некалькі дзесяткаў чалавек, у тым ліку навукоўцы з розных акадэмічных цэнтраў, якія займаюцца татарскімі і мусульманскімі пытаннямі.

**Дзіцячы эстрадны калектыў „Пронар"** з Нарвы выязджаў з канцэртамі ў Эстонію і Латвію. Нарваўскія спевакі ўдзельнічалі ў святкаваннях Дзён старога Таліна, выступалі ў эстонскіх гарадах Пярну і Нарва, а таксама ў Даўгаўпілсе ў Латвіі.

**На Ваяводскіх спартыўна-пажарных спаборніцтвах** у Беластоку змагаліся дванаццаць каманд пажарнікаў дабравольцаў. Першае месца заваявала каманда са Студзянак (раён Лапы), другое — з Боцькаў (раён Бельск-Падляшскі), а трэцяе — з Кляшчэль (раён Гайнаўка).

**Белавежскія зубры** хварэюць невядомай хваробай мужчынскіх палавых органаў. Хваробай інфіцыраваны некалькі працэнтаў прабываючага на свабодзе статка, якое цяпер налічвае больш за 230 штук. Хворыя зубры ліквідуюцца кожны год падчас зімовых адстрэлаў, а іх селекцыю (каля 30 штук у год) праводзіць адмысловая камісія з прадстаўнікоў Белавежскага нацыянальнага парку і Міністэрства аховы асяроддзя. Хвароба атакуе таксама зуброў у рэзерватах Беларусі і Украіны.

# Весткі з Беларусі

**Прапановы прэзідэнту**

Негатыўна ацаніўшы сацыяльна-эканамічнае становішча краіны, Федэрацыя прафсаюзаў звярнулася да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з прапановамі па выхадзе з крызісу. „Відавочна, што без фінансавага аздараўлення прамысловасці немагчыма ажыццявіць стабілізацыю і наступны ўздым эканомікі, сацыяльна абараніць працоўных", — падкрэслена ў звароце. Для вырашэння гэтай комплекснай задачы, лічыць Федэрацыя прафсаюзаў, трэба ў бліжэйшы час правесці інвентарызацыю выпускаемай прадукцыі, каб выявіць прадпрыемствы са стабільнымі і плацежаздольнымі рынкамі збыту. Для падтрымкі айчынных тавараывытворцаў неабходна павялічыць стаўкі ўвазных мытных пошлін на прадукцыю аналагічную той, якая выпускаецца ў рэспубліцы. Сярод іншых прапаноў — вырашэнне пытання аб стварэнні суб'ектам гаспадарання магчымасці атрымання доўгатэрміновага крэдыту на папаўненне абаротных сродкаў і прынцыповая змена падатковай сістэмы.

**Прэзідэнты супраць НАТО**

У сваіх выступленнях 22 чэрвеня ў Брэсцкай крэпасці на жалобнай цырымоніі, прысвечанай 55-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны, прэзідэнты Беларусі і Расеі закранулі пытанне пашырэння НАТО на ўсход. Аляксандр Лукашэнка ў прыватнасці заявіў: „Нельга дапусціць, каб недзе ў свеце магла з'явіцца палітычная сіла, маглі з'явіцца дзяржавы, нацыі, супольнасці, якія спрабавалі б дыктаваць сваю волю іншым народам і прасоўваць сваю зброю да чужых межаў. Сёння тут, ля сцен Брэсцкай крэпасці, праходзіць заходняя мяжа брацкай супольнасці Беларусі і Расеі, заходняя мяжа ўсіх краін Садружнасці. Мы будзем яе абараняць, як нашу агульную мяжу". Барыс Ельцын у сваю чаргу падкрэсліў, што збліжэнне народаў Расеі і Беларусі асабліва важна зараз, калі пашыраецца блок НАТО.

**Дагавор беластоцкіх гісторыкаў**

Дружбу дзвюх вышэйшых навучальных устаноў замацавалі дагаворам дэлегацыі Магілёўскага педагагічнага інстытута і Інстытута гісторыі Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Па праграме супрацоўніцтва прадугледжваецца абмен групамі студэнтаў, навуковымі ідэямі і вынікамі даследаванняў па гісторыі Беларусі і Польшчы, вопытам падрыхтоўкі педагагічных кадраў.

**Яднанне сацыял-дэмакратаў**

20 чэрвеня кіраўнік Беларускай партыі працы Аляксандр Бухвостаў падпісаў дакумент аб далучэнні партыі да блока Сацыял-дэмакратычны саюз, у склад якога ўваходзяць Беларуска сацыял-дэмакратычная грамада, Партыя народнай згоды і Партыя ўсебеларускага адзінства і згоды. У гэты ж дзень лідэры БСДГ Мікалай Статкевіч і ПНЗ Леанід Сечка падпісалі двухбаковае пагадненне аб аб'яднанні ў адну партыю.

**Замах на дэпутата**

На сесіі парламентарыі разглядалі пытанне, звязанае з інцыдэнтам, які адбыўся ў ноч з 13 на 14 чэрвеня, калі была абстраляна машына дэпутата Вярхоўнага Савета Віктара Ганчара. Выступаючы з падрабязнай інфармацыяй аб здарэнні, Віктар Ганчар запатрабаваў неадкладнай адстаўкі міністра ўнутраных спраў. Быў заслуханы кіраўнік МУС Валянцін Агалец. Ён запэўніў парламентарыяў, што гэтыя падзеі не звязаны з наўмысным замахам на дэпутата. Даваць жа ацэнку таму, што здарылася, пакуль ідзе следства, міністр не стаў.

**Прададзены „Мінск"**

Выступаючы на прэс-канферэнцыі ва Уладзівастоку, галоўнакамандуючы ваенна-марскіх сіл Расеі Фелікс Громаў растлумачыў прычыны спісання з саставу ціхаакіянскага флоту вялікага авіянясучага карабля „Мінск". Аказваецца, цёзка беларускай сталіцы, на якім у свой час праходзілі тэрміновую службу сотні беларусаў, у апошнія гады стаў слабым звяном расейскага ваенна-марскога флоту. На ўзлёт і пасадку самалётаў вертыкальнага ўзлёту расходавалася 30% паліва, у выніку радыус іх дзеяння абмяжоўваўся двумастамі кіламетрамі. Да таго ж машыны „Як-38" не мелі электронных навігацыйных сродкаў і кіраваліся лётчыкамі візуальна. У 1989 г. гэтыя самалёты былі зняты з узбраення і „Мінск" застаўся без паветранага прыкрыцця. Утрыманне карабля прыносіла толькі вялікія страты, таму і было прынята рашэнне прадаць яго на металалом.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Апошняе вяселле і хрэсьбіны ў Бялках** — рэпартаж Аляксандра Вярбіцкага.
- **Хто памятае „Лявоніху"** — разважае Міра Лукша.
- **Пра фэстын у Вярхлессі** — піша Віктар Швед.

# Пажарнікі на паперы

Заняпад камуны, пачаткі рыначнай эканомікі, былі ў асноўным прычынай зінікнення з карты краіны многіх прадпрыемстваў і ўстаноў, у тым ліку і пажарных камандаў (ОСП і ЗЗСП) у Чаромсе. Ці патрабавала таго эканомія? Ці ліквідацыя гэтых часцей не прынесла шкоды грамадству?

Добраахвотная пажарная каманда (ОСП) лічылася выдатна працуючай грамадскай арганізацыяй. Не прызначалася на яе існаванне вялікіх фінансавых сродкаў. Усяго зарплата для шафёра пажарнага аўтамабіля на паўстаўкі, забеспячэнне бензінам машыны і некалькі злотаў на гаспадарча-адміністрацыйныя справы. І ўсё!

ОСП, як сама назва гаворыць, гэта добраахвотная каманда. Складалі яе людзі, якім нясенне дапамогі іншым у час няшчасных выпадкаў з'яўляецца асноўнай мэтай.

Яны не патрабавалі зарплаты за сваю работу, працавалі пры розных пабудовах. Такім чынам вырас у Чаромсе прыгожы будынак пажарнага дэпо пры вуліцы Фабрычнай. Апрача таго пажарнікі займаліся прафілактыкай у асяроддзі. Іхнія кантролі ў сялянскіх сядзібах ліквідавалі адмоўныя з'явы, якія пагражалі пажарам. А цяпер?

Ужо некалькі гадоў як ліквідавалася ОСП у Чаромсе. Пажарнае дэпо апусцела. Аўтамабіль з неабходнымі прыладамі забралі ў вёску Чаромху. А пажарнікаў, быццам чараду нікому непатрэбных сабак, разагналі на ўсе чатыры стораны свету. Чыгуначны цэнтр астаўся сам сабе, а жыхары былі пакінуты на волю лёсу. Праўда, засталася яшчэ, цяпер толькі на паперы, прафесіянальная пажарная каманда (ЗЗСП) на колішнім паравозным дэпо, але была яна арганізавана дзеля забеспячэння маёмасці чыгункі, тавараў транзітных цягнікоў, а таксама дзеля прадухілення пагрозы, якую стварае перавозка ядахімікатаў праз чаромхаўскую станцыю. Каманда пачаткова атрымала 32 штаты, аднак за некалькі гадоў „рэструктурызацыі" на чыгунцы лічбавы стан каманды паменшыўся напалову. Ужо на пачатку 1990-х гадоў цэнтральная Дырэкцыя вырашала, што Чаромсе пажарнікі непатрэбныя. З кожным годам спыняўся транзітны рух гандлёвых цягнікоў з ГДР у СССР, а пасля вывядзення савецкіх войск з Германіі і Польшчы спыніўся і рух вайсковых эшалонаў. Аднак па-даўнейшаму праз Чаромху едуць цыстэрны з небяспечнымі хімікатамі, што нясе пажарна-хімічную пагрозу чыгуначнаму пасёлку. Дык каму ў Варшаве баліць галава, што ў Чаромсе можа здарыцца нейкая трагедыя па гэтай прычыне, што калі ліквідуецца пажарная каманда чыгуначнікаў, чалавечае жыццё апыніцца ў небяспецы.

У выніку гэтай „логікі", з канцом 1994 года спыніла сваю дзейнасць і прафесіянальная пажарная каманда на чыгунцы.

Вось як гэта ўспамінае былы начальнік узвода ЗЗСП Міраслаў Навіцкі.

— Будучы аднойчы ў Цэнтральнай дырэкцыі, я ўбачыў на пісьменным стале свайго шэфа нейкі спісак, на якім фіксавалася наша каманда. У адсутнасць начальніка я пазнаёміўся са зместам дакумента. У ім былі пазначаны пажарныя каманды для ліквідацыі. Пазнаніў я сваім у Чаромху. Мы падумалі бараніцца перад пагрозай страты працы. А паколькі нашы адносіны з начальствам былі вельмі сціплыя, мы ўсё ў хуткім часе ўладзілі. Чаромху выкраслілі з ліквідацыйнага спіска. Але пагроза надалей існавала. Мы не апусцілі рук. Паслалі прашэнне ў самыя вышэйшыя дзяржаўныя органы. У выніку нашых намаганняў Чаромху занеслі ў спісак арганізаваных выратавальна-тушыцельных пажарных часцей.

Доўга мы гаварылі з Міраславам Навіцкім аб чаромхаўскіх пажарніках. Паказаў ён мне многія дакументы, якія тычыліся гэтай справы. Накапілася іх немалая кіпа. Адзіны чалавек з Чаромхі, звычайны працаўнік, паставіў на ногі амаль усіх на вышэйшых ступеньках цэнтральных органаў. Пакуль што ў Чаромсе нічога не змянілася. Новая пажарная часць на базе чыгуначнага прадпрыемства не арганізавалася, хаця па распараджэнню старшыні Рады Міністраў ад 14 кастрычніка 1993 г. у Чаромсе павінна ўжо паўтара года дзейнічаць *Jednostka Ratowniczo-Gaśnicza Państwowej Straży Pożarnej.* Вось як выконваюцца ў нашай дзяржаве законы. Хачу прытым адзначыць, што гэтай справай цікавілася Вышэйшая кантрольная палата, якая адназначна канстатавала парушэнне законаў. У сваім лісце ад 7 верасня 1995 г. у адрас Галоўнага каменданта ПСП кантралёры напісалі: „...Dokonana w związku z tym analiza stanu prawnego regulującego organizację Państwowej Straży Pożarnej wykazała, że na mocy przepisów rozporządzenia Rady Ministrów z dnia 14 października 1993 r. (...) oraz przepisów Zarządzenia Nr 2 Komendanta Głównego Państwowej Straży Pożarnej z dnia 5 maja 1994 r. w sprawie ustalenia siedzib jednostek ratowniczo-gaśniczych Państwowej Straży Pożarnej — na bazie Zakładowej Zawodowej Straży Pożarnej Lokomotywowni PKP „Czeremcha" powołano Jednostkę Ratowniczo-Gaśniczą w Czeremsze" i dalej: „W związku z powyższym Zespół Obrony Narodowej i Spraw Wewnętrznych Najwyższej Izby Kontroli wnosi o wnikliwą analizę sytuacji zaistniałej na terenie działania Komendy Wojewódzkiej Państwowej Straży Pożarnej w Białymstoku oraz podjęcie działań zapewniających odpowiedni stan bezpieczeństwa na tym obszarze". Аднак і гэта не адмяніла долі чаромхаўскіх пажарнікаў.

Колькі яшчэ вады працячэ ў рачулцы Нурчык, колькі ячшэ дакументаў прыбудзе ў папцы Міраслава Навіцкага, цяжка сказаць. Адно пэўнае, ёсць сілы ў Беластоку і Гайнаўцы, якія спецыяльна тармозяць усю гэтую справу для сваёй выгады. І ніхто нічога не можа адмяніць! Ні начальнікі мясцовага самаўрада, узначальваныя войтам гміны інжынерам Міхаілам Врублеўскім, ні Вышэйшая кантрольная палата, ні сам прэм'ер урада ды ўрэшце сродкі масавай інфармацыі, якія пацікавіліся гэтай справай.

Няўжо ж у дэмакратычнай дзяржаве не знойдзецца чалавек, які скажа праўду жыхарам чыгуначнай Чаромхі чаму яны апынуліся па-за правам, чаму некаторыя чыноўнікі ставяць свае прыватныя інтарэсы вышэй грамадскіх. І ўрэшце, калі гэтаму балагану будзе канец!

**Уладзімір Сідарук**

# На акраінах Беластока

Прэса, калі піша пра жыццё Беластока, пераважна прадстаўляе ўсё тое, што дзеецца ў цэнтры горада. Пра акраіны згадваецца найчасцей у крымінальных хроніках, калі нехта каго паб'е, парэжа, абкрадзе. У сапраўднасці на Пячурках, Засценках, Дайлідах, Пятрашах кожны дзень не здараецца нічога важнага, аб чым варта было б пісаць у газетах. Апошнім часам узнікла там толькі некалькі дзесяткаў новых крамаў, у якіх усё нашмат даражэйшае, чым у цэнтры горада; на кожнай свабоднай прасторы вырастаюць новыя дамы, а побач іх такой самай велічыні аптовыя склады. На пазбаўленых цвёрдага палатна вуліцах падчас канікулаў поўна разбеганых дзяцей, якія з прычыны адсутнасці спартыўных аб'ектаў змагаюцца за чэмпіянат па колькасці разбітых шыб у навакольных будынках. Губерты, Чаркі, Яцкі, Сэбастыяны — сыны Міколкаў, Васькаў, Федзікаў — час ад часу лаюцца *ty, ruski chamie!* Пасля захаду сонца робіцца там зусім ціха.

Новыя кварталы, узніклыя ў апошніх дзесяціГоддзях, гэта ў сапраўднасці вялікія вёскі, якіх жыхары гурмою, быццам бы ўцякаючы перад нейкай катастрофай, з'ехаліся сюды з усіх усходніх гмін. Яшчэ нядаўна вакол сённяшняй вуліцы Пляжовай раслі збожжа і бульба, мычалі каровы. Але ў адрозненне, напрыклад, ад Міхалоўскай гміны, зямля тут мела вялікую вартасць. Была блізка Беластока, які бы магніт прыцягваў вяскоўцаў з усяго ваяводства разам з іх выдушаным з гаспадаркі капіталам. Людзі, якія пабудавалі тут свае дамы і пачалі працаваць на фабрыках, у канцылярыях ці камісарыятах, не пакінулі сваіх шматвяковых прывычак. Апрача велізарных і кашмарных катэджаў на кожным панадворку ставілі хлявы, свірны ды іншыя збудаванні неакрэсленага прызначэння. Яшчэ дваццаць гадоў таму цяжка было б знайсці ў гэтых кварталах кагосьці, хто б не гадаваў свіней, курэй, гусей. Усе рабілі гэта быццам бы дзеля ашчаднасці ў выдатках на харчовыя прадукты, а ў рэчаіснасці праўдападобна з патрэбы сялянскай душы. Вакол хаты абавязкова садзілі яблыні, вішні, грушы, кусты парэчак, а паміж дрэўцамі сеялі буракі, моркву, агуркі. На панадворку паміж домам і хлявамі асталіся толькі вузенькія сцяжынкі ды месца для стаянкі „Сірэны" ці „Трабанта".

Хаця ўжо ў тых дамах вырасла новае пакаленне, якое перастала займацца гадоўляй свіней, але яго эстэтычныя патрабаванні не надта розняцца ад густаў сялянскіх продкаў. Замест „Трабантаў" з'явіліся толькі „Мерседэсы", а драўляныя платы замянілі жалезныя. Агароджа, выкананая з некалькіх тон сталі, робіць ураженне аб'екта мілітарнага характару, а дом выглядае быццам бы нейкая крэпасць. На месцы шэрых павецяў з'явіліся белыя фольгавыя парнікі. Новае пакаленне не прадукуе ўжо сала, а памідоры, агуркі, радыску. Маладыя людзі больш чытаюць і ведаюць усё пра шкоднасць спажывання тлушчу. Але ў апошніх гадах пачало і тут нешта мяняцца. З некаторых панадворкаў прападаюць старыя яблыні, якія доўгімі гадамі давалі гаспадарам садавіну. Штораз больш відаць флоры, якая з'явілася там толькі дзеля ўпрыгажэння наваколля дому. Знікаюць таксама салатна-цыбульныя палеткі. Пераўтвараюцца яны ў гладка падстрыжаныя газоны. Шэрасць тынкаў пастаянна замяняе бель „сайдынгаў". Штораз больш кошаў для смецця, а менш адпадкаў на пустуючых плошчах. У агульным выглядзе не мае гэта вялікага значэння, таму што шмат яшчэ такіх мяшчан на акраінах, якія ўсе памыі выліваюць проста на вуліцу, а зімою прынцыпова выкідаюць там попел з печаў цэнтральнага ацяплення. Хаця пачынае нешта мяняцца на панадворках, вуліца надалей астаецца нічыёй. На экранах тэлевізараў новамяшчане праз спадарожнікавыя антэны глядзяць на шыкарныя аўтамабілі, якія імчацца па гладзенькіх дарогах. Такія ці амаль такія самыя машыны стаяць ужо побач іх катэджаў, але выехаць можна толькі на такую дарогу, якая была тут і пры панаванні Раманавых. Такое сутыкненне XXI і XIX стагоддзяў.

**Васіль Кургановіч**

# У Кляшчэлях...

... на канікулах адным з большых атракцыёнаў будзе басейн. Будаваўся ён як супрацьпажарны, але апошнім часам выкарыстоўваецца дзеля адпачынкавых мэтаў.

— У палове ліпеня, — сказала дырэктар Гміннага асяродка культуры **Мар'я Клімовіч**, — на басейне будуць праводзіцца спаборніцтвы на „кубак лета". Зрэшты, большасць арганізаваных намі імпрэзаў у летні час пераносіцца з дома культуры на басейн, або на стадыён, дзе, між іншым, будзе сарганізаваны беларускі народны фэст. Рыхтуемся таксама запрэзентаваць нашу гміну на агл̈ядзе „Progres'21", які адбудзецца ў жніўні ў Гарадку. Там будзем паказваць нашу культуру, але і эканамічныя дасягненні. Паглядзім таксама, чым могуць пахваліцца іншыя.

Мар'я Клімовіч дырэктаркай стала ад 1 чэрвеня. Раней як працаўніца ГОКу займалася, галоўным чынам, выпускам штомесячнай газеты „Co słychać w gminie?" Газета ў верасні будзе адзначаць сваё 5-годдзе. Да гэтай пары ўдавалася ўтрымаць перыядычнасць і тыраж ста паасобнікаў. У мінулым годзе на семінары лакальнай прэсы ў Супраслі „Co słychać w gminie?", побач з газеткамі з Супраслі, Замбрава і Чорнай-Беластоцкай, была пастаўлена як прыклад добрай журналісцкай працы.

— У сувязі з назначэннем мяне на пасаду дырэктара дабавіліся мне новыя абавязкі, — кажа пані Клімовіч, — але газетку трэба ўтрымаць. Я думаю, што гэта цікавая з'ява і мае добрую ацэнку пастаянных чытачоў. Яна ўпісалася ў краявід гміны. **М. В.**

# Арыштаваны ў Беластоку

26 чэрвеня 1945 года ў Беластоку спецгрупай савецкай дзяржбяспекі быў затрыманы малады чалавек — Ян Бялькевіч. Пасля першых допытаў, яго пад моцнай аховай павезлі ў Менск. Там Бялькевіча з нецярпеннем чакаў нарком дзяржбяспекі БССР Лаўрэнці Цанава, які ведаў сапраўднае прозвішча арыштаванага — Усевалад Родзька... Ведаў Цанава, што менавіта Родзька з'яўляецца правадыром Беларускай незалежніцкай партыі, якая ўзначаліла антысавецкае супраціўленне на Беларусі...

Праўдападобна, усе беды беларускага народа ад нешанавання памяці нашых продкаў. Вельмі лёгка мы забываемся пра сваіх герояў, праслаўляючы імёны нашых ворагаў-акупантаў. Мы забываліся пра адважных беларускіх змагароў, якія паклалі свае жыцці ў барацьбе за волю і незалежнасць Бацькаўшчыны. Вось пра Усевалада Родзьку дагэтуль нічога не напісана, ні на эміграцыі, ні на Беларусі. Дык паспрабую асвяціць найбольш важныя старонкі яго біяграфіі.

Усевалад Родзька нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Чучэвічы Лунінецкага павета Пінскай вобласці. Ягоны бацька, Філарэт Родзька, быў капітанам расейскай арміі. Пасля таго, як сям'я пераехала ў Навагарадак, Усевалад паступіў у польскую дзяржаўную гімназію імя Адама Міцкевіча. Падчас вучобы ён вылучаўся сваімі здольнасцямі да навукі і спорту, быў камандзірам дружыны скаўтаў. Разам з ім вучыліся і гэткія вядомыя дзеячы беларускай эміграцыі, як Барыс Рагуля, Язэп Сажыч, Уладзімір Набагез. У 1938 годзе, па заканчэнні гімназіі, Родзька і іншыя хлопцы-матурысты былі накіраваны ў польскую школу падхарунжых у Замбраве.

Падчас нямецка-польскай вайны шмат беларусаў ваявала супраць агрэсара, шмат іх трапіла ў нямецкі палон. Толькі ў жніўні 1940 года Усевалад Родзька вызваліўся з палону і далучыўся да беларускага вызваленчага руху. Ён уваходзіць у групу Гадлеўскага-Шчорса, пачынае ўдзельнічаць у дывэрсійна-разведвальных аперацыях абвэра ў БССР. У жніўні 1941 года Родзька, Міхась Вітушка, атаман Якуб Харэўскі кіравалі аддзеламі сялянскае Беларускае самаахова падчас сумеснай з Палескай сеччу Украінскай паўстанчай арміі, антыбальшавіцкай аперацыі на Палессі. Тады беларускія і ўкраінскія аддзелы ўзялі пад свой кантроль тэрыторыю ад Пінска да Мазыра і ад Слуцка да Сарнаў. Пасля злачынная нямецкая палітыка змусіла гэтыя аддзелы ісці ў лес і арганізоўваць нацыянальны партызанскі рух (Беларуская народная партызанка і УПА).

Маючы падтрымку абвэра, Усевалад Родзька становіцца бурмістрам Віцебска, праводзіць паступовую беларусізацыю ў горадзе, арганізоўвае разам з Міхасём Рагулем выпуск газеты „Беларуская старонка". Ён праводзіць актыўную падпольную працу: арганізоўвае падполле БНП у Менску і Віцебску, трымае сувязь з украінскімі нацыяналістамі, імкнецца ўзняць нацыянальную партызанку, трымае сувязь з усімі беларускімі падпольнымі групамі.

На з'ездзе БНП 7 ліпеня 1942 г. Усевалад Родзька выбіраецца кіраўніком партыі. Ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі ў гэты час распачынае арганізацыю Беларускага народнага (цэнтральнага) фронту, які павінен быў стацца галоўнаю сілаю нацыянальнага рэзыстансу. БНП адводзілася роля авангарда вызвольнага руху. Пасля гібелі Гадлеўскага ў катоўнях гестапа, Родзька фактычна становіцца кіраўніком беларускага вызвольнага руху, а перад усім, антынямецкага падполля на Беларусі.

У студзені 1944 г. ён уваходзіць у Беларускую Цэнтральную Раду, адказвае за працу з моладдзю. Менавіта моладзь складала асноўную частку сяброў БНП. Калі ў сакавіку 1944 г. арганізуецца Беларуская краёвая абарона, Усевалад Родзька ачольвае 15-ты батальён БКА. Былы грамадовец Васіль Вір пісаў на эміграцыі, што ён „ненавідзеў нямецкі мундзір і ніколі яго не насіў, апранаючыся ў мундзір французкага афіцэра, з нашым Ярылавым Крыжом, які гостра розьніўся нават колерам ад нямецкага". Родзька быў фактычным кіраўніком БКА праз вайсковы актыў БНП. Маёр Ф. Кушаль камандуючым быў толькі намінальна.

Летам 1944 года ва Усходняй Прусіі былі арганізаваны беларускі дэсантны батальён „Дальвіц", якім камандаваў маёр Гелда, а палітычным кіраўніком быў Родзька. Беларуская моладзь тут праходзіла падрыхтоўку на партызанскую дзейнасць. У гэты час на Беларусі шырыўся антысавецкі партызанскі рух і Усевалад Родзька хацеў даць яму ваеннае і палітычнае кіраўніцтва. 17 лістапада 1944 г. на Віленшчыне дэсантавалася група генерала М. Вітушкі, які і стаў, неўзабаве, камандзірам Беларускай вызвольнай арміі. Дэсанты перакідваліся да пачатку 1945 года, калі немцы ўжо не маглі даць на гэтыя мэты самалёты. Тым не менш, Родзька не адчайваецца, а працягвае падрыхтоўку батальёна. Ён пакідае падполле БНП у Польшчы і Чэхіі, вядзе перамовы з украінскімі нацыяналістамі аб сумеснай барацьбе з бальшавікамі. У сакавіку маёр Родзька разам з Ота Скарцэні абмяркоўвае магчымасці перакідкі „Дальвіца" на Беларусь, ён накіроўвае на захад некалькіх кіраўнікоў партыі, для наладжвання сувязі з альянтамі.

Пасля рэарганізацыі БНП у Беларускую вайсковую арганізацыю на красавіцкай нелегальнай канферэнцыі партыі, „Дальвіц" перадыслакаваўся ў Чэхію. Пра тое, што здарылася далей, успамінае сябра ЦК БНП Міхась Зуй: „Пасля капітуляцыі Нямеччыны, вечарам, наш батальён пакінуў Чорную Гару, бяручы напрамак прабіцца на Захад, да альянтаў... У часе адступасці камандзіра Родзькі, капітан Гелда ... даў загад ... здаць зброю чэхам. Гэта здарылася на вуліцах горада Прагі. Калі вярнуўся маёр Родзька ў батальён, са слязьмі сказаў: *Здаўшы зброю чэхам, вы зрабілі сябе безабароннай групай. Ваша жыццё залежыць цяпер ад волі лёсу. Дарогу на Захад адрэзалі бальшавікі, а хто пападзе ім у рукі — не мінаваць кулі. Разбівайцеся на групы і прабірайцеся на Захад.* Выдаў нам часовыя пасведкі, што мы палякі..."

Няма звестак пра тое, як Родзька дабіраўся да Беластока. Вядома толькі, што ў горадзе жыў ён пад фальшывымі дакументамі. Усевалад Родзька арганізоўваў падпольныя структуры БНП, аднаўляў сувязі, перакідваў з Нямеччыны і Польшчы сябраў БНП-БВА на Беларусь, шукаў кантактаў з беларускай партызанкаю. Аднак і дзяржбяспека не сядзела без працы. Родзьку шукалі і на Беларусі, і ў Польшчы. Па адной з версій, ён быў выдадзены чэкістам правакатаркай.

У менскай турме Усевалад Родзька знаходзіўся да вясны 1946 года. Каты з МГБ патрабавалі ад яго раскрыць падпольныя структуры, партызанскія базы, групы сувязі... У 1995 г. выйшла кніжка чэкіста А. Салаўёва пра БЦР, у якой ён выкарыстоўвае і ўрыўкі з паказанняў Родзькі. Толькі не піша ён, якімі метадамі выбіваліся паказанні ў гэтага маладога хлопца. Аднак адзначае, што Родзька „политически разоружился и рассказал о провокационной сущности возглавляемой им партии". Не піша Салаўёў і пра тое, што зрабілі з правадыром БНП-БВА чэкісты.

Праўдападобна, Родзька быў павешаны ў траўні 1946 года. Дзе быў выкананы прысуд і месца магілы — невядома. Было Усеваладу толькі 26 гадоў...

Рада БНР пасмяротна надала Усеваладу Родзьку чын генерала, адзначаючы яго выключныя заслугі перад беларускім народам. Пасмяротна ён быў узнагароджаны ордэнамі Пагоні і Жалезнага Рыцара. Яго светлай памяці прысвяціў сваю кнігу ўспамінаў „Пад знакам Пагоні" Язэп Малецкі.

**Сяргей Ёрш,**
**г. Слонім**

# Беларуская дэманстрацыя ў Вашынгтоне

Беларусы Амерыкі з непакоем сочаць за ходам падзей у Беларусі, калі прэзідэнтам у ліпені 1994 года стаў Аляксандр Лукашэнка. Здзек над беларускай мовай і культурай, гвалт прэзідэнцкай адміністрацыі — часта з парушэннем заканадаўства і Канстытуцыі — над сродкамі масавай інфармацыі, свабоднымі прафсаюзамі, звычайнымі мірнымі грамадзянамі, парламентарыямі і нават Канстытуцыйным судом выклікаюць адназначна адмоўнае стаўленне да цяперашніх улад у Беларусі. Асабліва ўстрывожваюць падзеі апошніх двух месяцаў, калі амаль кожны дзень парушаюцца правы чалавека і грамадзяніна, а беларуская дзяржаўнасць апынулася пад пагрозай ліквідацыі.

Менавіта таму амерыканскія беларускія арганізацыі ад некаторага часу аднадушна пратэстуюць супраць заціску свабоды і ўмацоўванню дыктатуры на Бацькаўшчыне. Беларускія дзеячы падаюць такія звесткі да ведама сродкаў масавай інфармацыі, палітыкаў, прафсаюзных і іншых арганізацый. Адной з форм пратэсту было наладжанне 5 чэрвеня ў Вашынгтоне двух маніфестацый перад беларускім і расейскім пасольствамі.

Беларускія дэманстранты, якіх успамагалі дзеячы амерыканскіх прафсаюзаў, патрабавалі спыніць рэпрэсіі супраць арганізатараў і ўдзельнікаў мірных маніфестацый у Беларусі. Перад расейскім пасольствам, побач нацыянальных бел-чырвона-белых сцягоў, красаваліся лозунгі з заклікамі спыніць паход расейскага імперыялізму ў Беларусь. Дэманстрантаў (прыблізна сто асоб) добразычліва ўспрымалі жыхары Вашынгтона, якія таксама ўключаліся ў маніфестацыю.

**Юры Каліна**
*Фота аўтара*



*Перад будынкам беларускага пасольства прамаўляе д-р Янка Запруднік.*

# Дайце мне слова

Дайце мне слова сказаць пра Сашку,
хоць на паэта няма замашкі
ў мяне ні на прамоўцу падставы.
Можа яго так завуць ад „лукавы"?
Бо мае ён такія праявы.
Свае думкі і погляды ў Аўстраліі —
вольнай краіне —
усе гавораць адчынена,
без усякай „падмазкі",
не надзяваючы маскі.
Калі я жыў у БССР,
быў грамадзянінам СССР,
„самай вольнай краіны свету",
не скрываў я свайго твару пад маскай
і трапіў уладзе ў няласку.
Вось я чаму цяпер у Аўстраліі,
„па сваёй віне" і з Божай ласкі.
Ваяваў я ў Чырвонай Арміі
супраць нямецкага фашызму.
Лёс закінуў мяне далёка ад Айчызны,
але я неабыякавы да Радзімы.
Там мая радня, сябры, суродзічы.
Ім цяжка жыць прыходзіцца.
Хачу хоць падтрымаць маральна
іх у жыцці марным.
Выказваю ўсім спачуванне.
Прыміце маё шкадаванне.
Да сустрэчы ізноў.
Ваш

**Сямён Шаўцоў**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 438

Рэдактар: Сакрат Яновіч

Зьніч

## Успамін

... дождж уначы ...
хата далёка ...
ані душы —
як бачыць вока ...
... толькі царква
на ўзвышэньні
сьвет харавства
сэрцу праменіць ...
... раптам Анёл —
шчырым сумоўем —
скруху адвеў
ад маіх скроняў ...
... сьцежачку слаў —
ажно да хаты —
словамі ўхвал
роднага брата ...
... болей скажу:
ці не каханьне
сэрца адчула
на разьвітаньне?..
... толькі ў адным
памяць зманіла:
дзе прытуліў
Анёл мой крылы?..
... ціхенька зьнік —
як і зьявіўся ...
. . . . . .
... хай-бы той міг
зноў паўтарыўся!..

*(З цыкла „Мядовае скерца")*

Івона Марціновіч

## Між намі нічога не было

між намі нічога не было
толькі...
плылі белыя лебедзі
тааак...
як нязбытыя мары
сонныя
па бурштынавай вадзе
малюючы знакі вясеннія
хвалая
за
хваляю
лёгка
як лебядзіныя пёркі
ціха
таемна
шапталі ноч з месяцам
між намі нічога не было
акрамя мар здрадлівых
так нявінных
як мы самі
узнятых дзесьці ў прасторы
з шыямі
гладкімі
гнуткімі
зачараванымі
толькі я не ведаю
няўжо нішто
нішто нас з сабой не злучала
акрамя...
акрамя чараў натуры
белых лебедзяў
ціха
нота за нотай
варыяцыя жыццёвая
аб жыцці
і ў жыцці
і зноў слова
між намі нічога не было
толькі...
сонца сплыло цеплынёй у вока
нясучы раніцу маладосці

*1993.09.21*

Марк Рубашэўскі

# Фантазія*

Мы ішлі акурат у царкву (а можа быў гэта касцёл?). Усё як за імглою. Увайшлі ўсярэдзіну, а там холадна і непрыемна; па плячах цяклі стружкі поту. Я ведаў, што нешта тут ёсць. Адчуваў цяжар — не фізічны, а псіхічны. Цяпер я ведаю, што гэта было нешта злое, існуючае ад тысячы гадоў, нават да першых хрысціян. Тады, аднак, я добра не разумеў таго, хоць, можа быць, і вельмі хацеў. Мы гэта проста адчувалі ў тым святым месцы. Усё ж я і мае сябры не змаглі ўлавіць тую дзіўную розніцу, былі ж усяго толькі экскурсантамі.

Раптам, невядома адкуль, бухнуў страшэнны смех, ад якога валасы падняліся на галаве, прабеглі дрыжыкі па ўсім целе.

— Хлопцы, каторы з вас гэтак дасціпны? — сказаў не спытаўшы я, сам не верачы, каб зрабіў тое нехта з сяброў.

Яны паглядзелі на мяне, быццам я распавёў ім пра НЛА.

— Дурнямі нас бачыш, Марк? — азваўся Пятро.

— Дурнямі, ці не, але хачу ведаць, хто гэта зрабіў?! — сказаў я так, каб самому лепей адчуць сябе.

У надышоўшую цішыню ўсе паглядзелі на аднаго чалавека, які, немавядома адкуль, з'явіўся тут. Ён ішоў да нас. І калі апынуўся ў некалькіх кроках ад Пятра, яго твар жахліва скрывіўся і я ўбачыў на ім вострыя, бы брытва, зубы. Пятро чамусьці спрабаваў усміхнуцца да незнаёмца, але той накінуўся на яго і скруціў яму шыю з такою лёгкасцю, як дзіця ламае запалкі. Затым устраміў тыя свае зубы ў ягоную шыю і спавольна высмактаў з яе кроў, з нейкай прыемнасцю, быццам піў добрае віно. Мы, урэшце перамогшы сваё здранцвенне, рушыліся адпомсціць звырадню, але ён, прыкмеціўшы нашы намеры, кінуў цела Пятра, бы манекен які, а сам падзеўся невядома куды, расплыўся ў паветры.

І зусім нечакана паўстаў за маімі плячыма. Я адчуў холад ягонага дыху. Ён набліжаўся да маёй шыі.

Не-е-эээ! — здавалася мне, што я крычу, але гэта не быў крык.

Я прачнуўся.

І тады сапраўды крыкнуў ды спахапіўся з пасцелі. Каля галавы круціўся мой сабака.

— Як ты можаш так палохаць свайго гаспадара... — дакараў я чатырохногага сябра, ідучы прыняць цверазільны душ. У галаве бушавалі думкі, я не мог забыць той ашаламляльны твар з зубелямі.

Паступова сон забываўся, хоць не было ад яго супакою. Без спеху я падышоў да тэлефона і пазваніў Пятру. Замест яго голасу, пачуў у трубцы аўтаадказчык: *Мяне няма дома. Прашу пакінуць звестку.*

Я здрыгануўся, не даў рады і словам азваца: у такую пару Пятро заўсёды быў дома! Я знерваваўся, не мог знайсці сабе месца. Надумаў пашукаць Пятра ў ягонае дзяўчыны. Узяўся тэлефанаваць ёй, калі раптам нехта пазваніў мне ў дзверы. Я насцярожана прачыніў іх і ўбачыў Ксэню. Перапужаўся ад яе выгляду: вочы ў яе былі запухлымі, уздырдыганеныя валасы, учырванелы твар... Слаба мне стала.

— Бачыў ты Пятра? — сказала яна нейкім незапытальным голасам ды спрабавала ўсміхнуцца.

— Не, не бачыў, — адказаў я. — Але, думаю, нам трэба перш прывітацца. Добры дзень!

Яна адказала.

— Заходзь, калі ласка. Не будзем жа на парозе гаварыць.

Пасядзеўшы ў мяне, яна крыху акрыяла. Я пачаставаў яе цытрусавым сокам.

— Можа быць, пагаворым? — папрасіў я Ксэню. — Прыходзіш, пытаеш пра Пятра, і маўчыш...

— Ты напраўду не бачыў сёння Пецькі? — зноў яна пра тое ж. Па яе шчоках пакаціліся слёзы. — Я званіла яму, але ніхто не падняў трубку, а калі пайшла да яго, ніхто не адчыніў дзверы.

— Ну і што: адразу трэба ў нервы кідацца? — іранічна папытаў я. — Не будзь вар'яткай. І аднае хвілі жыць адно без аднаго не можаце?

— Гэта не так, але...

— У чым тут *але*?! — не даў я ёй дагаварыць.

— Ад некаторага часу да Пятра былі глухія тэлефоны, — тлумачыла мне Ксэня і ўсё плакала.

— Ну і што? Дзяўчына, пэўна, нейкая зацікавілася ім, — сказаў я і потым шкадаваўся ад тых словаў.

Ксэня зірнула на мяне такімі вачыма, якімі, відаць, воўк глядзіць на сваю авечку.

— Даволі, не плач, — прытуліў я Ксэню да сябе, усю мокрую ад слёзаў.

Я ўспомніў, што ў мяне ёсць ключ ад кватэры Пятра і хутка сказаў ёй пра гэта. Ксэня адразу згадзілася пайсці са мною туды.

Будучы ўжо каля дзвярэй кватэры Пятра, Ксэня моцна сціснула маю руку.

— Што з табою? — пажартаваў я. — Ты ж адважная і баішся?

Змаўчала мае.

Я далей пацвельваў з яе:

— Не бойся, бо і чаго: Пятра няма дома і мы непатрэбна топчамся, — гаварыў я, спавольна адмыкаючы ключом дзверы. Калі расчыніў іх, бухнуў на нас нечуваны смурод, быццам нешта даўно гніло. — Пятро! — крыкнуў я. — Пятро! Азвіся, ты дома?!

Адказала мёртвая цішыня.

Прайшоўшы калідор, я ўвайшоў у спальню. Тое, што ў ёй убачыў, перасягала ўсякія жахі! Сцены былі замаляваны пентаграмамі. Цела Пятра ляжала неверагодна звярэджанае, без аднае паловы галавы, а ў другой — выкалата вока; правая рука без далоні, левай зусім не было, нейкай страшэннай сілай вырванай з пляча. Страўнік цалкам пусты, у жываце я не ўгледзеў ні кішак, ні пячонкі...

Я стаяў, як укопаны. Зразу не чуў крыку Ксэні і праз хвілю зрабілася мне прыкра ад гэтага. Падтрымаў яе, сказаўшы пару супакойваючых словаў.

— Марк, ці ж гэта Пятро? — сцішнавата запытала яна.

— Ён.

Ксэня пачала горка плакаць. А мяне раптам ахутала цемра. Усё роўна што праз сон далятаў да мяне крык. Быў гэта крык жанчыны. Намагаўся я павярушыцца ды не мог, нешта трымала мяне. Усё ж памалу даходзіў я да сябе. Галава зрабілася цяжкаю і моцна балела. Надалей не змог быў паварушыцца. І тады пачуў жахлівы смех, і ўспомніў сон. — Не можа гэтага быць! — хацеў я закрычаць.

Падумаў, аднак, што калі забілі Пятра, дык усё можа быць. Угледзеў твар надта падобны з тым, які бачыў у сне, з доўгімі зубамі, белымі, жахотнымі! Але, яшчэ перад гэтым, убачыў дзяўчыну, якая ляжала ў сярэдзіне пентаграмы. Пентаграма была намалявана кроўю і была гэта кроў Пятра. — Ён яе заб'е! — мільганула мне ў думках.

Ад гэтага здогаду ўва мне з'явілася моц. Крыжык на маіх грудзях заззяў ясным святлом. Сканцэнтраваўшыся, я напружыў свае мускулы, каб вызваліцца з таго якогасьці ўціску, але так, каб той хтосьці не здагадаўся ў маіх намерах. Розум падказаў мне, каб таго кагосьці накаўтаваць. Ударыў яго я з непрадчуванай мноюраней сілаю! Дапамагло. Кінуўся я затым у кухню, схапіў там нож, разрэзаў на сабе нейкія шнуркі. Цяпер мог счапіцца з ім як роўны з роўным. — Калі ён вампір, — думаў я, — тады можна знішчожыць яго толькі агнём або асінавам калом.

Ён набліжаўся да мяне, усміхаючыся белымі, доўгімі зубамі. Я хутка акінуў вокам кватэру і заўважыў табурэтку з востра закончанымі ножкамі, якраз такімі, каб адною з іх прастраміць паскуду. Вампір, відаць адгадаўшы мае намеры, рынуўся на мяне, але я шчасліва адскочыў убок. Усё ж удалося яму паласнуць зубелямі маю руку, досыць параніўшы.

Я разламаў табурэтку, разбіўшы яе аб падлогу, і маючы ўжо тыя ножкі ад яе, меў чым абараняцца. Калі ён зноў тузануўся на мяне, я ўвагнаў у яго востры кол, з мацатою, ад якое сам здзівіўся. Зубач завыў.

— Прападай, зараза! — закрычаў я, адрэзваючы галаву.

З яго галавы выпаўзала нешта такое, што мела тысячы ног.

— Госпадзе! — енкнуў я.

На гэтае новае стварэнне ліў я ўсякія атруты, якія знаходзіў у запасніках Пятровае кватэры. Урэшце жыгнуў запалкаю; усенька тое, цела і галава, занялася полымем. Імгненна згарэла, адно купка попелу засталася. Тады ўжо меў я час дапамагчы Ксэні. Яна, уся ў шоку, толькі плакала і тулілася да мяне, свайго збаўцы.

Кватэру Пятра мы спалілі.

— Даруй мне, Пятро, за гэта, але так трэба, — казаў я, падпаліўшы перш спальню.

Я з Ксэняй адбегліся даволі далёка ўжо, калі дагнаў нас погалас ад магутнага выбуху: агонь дайшоў да газу.

— Уласціва кажучы, што гэта напраўду здарылася? — дапытвалася пасля дзяўчына.

Я пра ўсё ёй распавёў, зазначыўшы: самае важнае ў тым, што абое мы засталіся ў жывых.

А вось цікава, колькі на свеце людзей з падобнымі маёй таямніцамі...

*) *Аўтар „Фантазіі" ўзнагароджаны на І-ым Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы.*

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Мінуў школьны год

Урэшце канікулы! Многія з нашых чытачоў зусім ужо даўно забылі пра школу. Таму зараз згадаем толькі самыя лепшыя моманты і здарэнні, якія спадарожнічалі „Зорцы” на працягу школьнага года 1995/1996.

Яшчэ ў жніўні 1995 г. мы пачалі ладзіць **Творчыя сустрэчы „Зоркі”**. На працягу школьнага года чытачы нашай старонкі размялявалі тры каляровыя крыжы (у Меляшках, Калёніі Меляшкі і Бельску-Падляшскім), падрыхтавалі дзесяць старонак „Зоркі”, размалявалі тры карціны і многія малюнкі (якія ад лютага г.г. друкуем у „Зорцы”), стварылі тэатральную п’есу „Масленіца ў навакольлі Бандароў” і наладзілі жывапісныя і фатаграфічныя выстаўкі ў пачатковых школах і беларускіх ліцэях.

Самай папулярнай дзейнасцю нашых чытачоў было **ўдзельніцтва ў конкурсах „Зоркі”**. На працягу школьнага года мы атрымалі да двух тысяч пісем. Сярод самых актыўных энтузіястаў конкурсаў трэба назваць: **Аню Селеванюк** з Чыжоў, **Марылю Тапалеўскую** з Кленік, **Марціна Мялешку** з Новага Корніна, **Ірка Абрамюка** з Нарвы, **Петруся Янкоўскага** з Бельска-Падляшскага, **Івону Сегень** з Гайнаўкі, **Камілю Лабузінскую** з Кленік.

Вельмі надзейнымі аказаліся дэбюты многіх карэспандэнтаў. Сярод юных паэтаў зазззялі такія індывідуальнасці, як **Жанэта Роля** (яна ж лаўрэатка І Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы, а таксама дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова”), **Аня Садоўская** з Нарвы, **Міхась Дзмітрук** з Курашава, **Кася Анішчук** з Кленік.



*Клас V „е” з бельскай „тройкі” разам з настаўніцай беларускай мовы Валянцінай Бабулевіч.*

У галіне прозы найцікавей дэбютавалі **Марта Саевіч** з Дубіч-Царкоўных, **Аня Тэслюк** з Новага Корніна і **Ірэна Кулік** з Дубіч-Царкоўных.

Да пастаянных зорчыных карэспандэнтаў-публіцыстаў, такіх як **Аня Аўсянюк**, **Міхась Стэпанюк** дайшлі яшчэ **Андрэй Таранта**, **Жанэта Роля** (усе яны вучні бельскай „тройкі”) і **Аня Садоўская** з Нарвы.

У кампаніі жывапісцаў, такіх як **Пятрусь Дзем’янюк** з Чыжоў, **Паўлік Кубаеўскі** з Орлі, **Юліта Гаўрылюк** і **Агнешка Качаноўская** з Чыжоў, паявіліся новыя таленты: **Каміля Лабузінская** з Кленік, **Адрыян Лукша** з Семяноўкі, **Цаліна Глагоўская** з Гданьска, **Аня Тамашук** і **Мажэна Жменька** з бельскай „тройкі”, **Лукаш Жукоўскі** з Орлі, **Аня Саеўская** з Кленік.

Дзякуючы гэтым індывідуальнасцям, „Зорка” змяніла свой воблік. Зараз чытаюць яе не толькі дзеці, але і дарослыя чытачы „Нівы”.

Вялікую падзяку трэба накіраваць у бок усіх настаўнікаў, якія заахвочвалі сваіх выхаванцаў пачаць супрацоўніцтва з „Зоркай”. Тут трэба адзначыць актыўнасць класа V „е” бельскай „тройкі”. Вучні гэтага класа не толькі першыя энтузіясты „Зоркі”, але і найбольшыя ў школе выдатнікі. Класным выхавацелем класа V „е” была спадарыня **Галіна Федарук**, а беларускай мове навучала іх сп. **Валянціна Бабулевіч**. Сярод настаўнікаў, якія вельмі актыўна супрацоўнічалі з „Зоркай” былі **Ніна Абрамюк** з Нарвы, **Вера Фляpчук** з Кленік і **Аліна Ваўранюк** з бельскай „тройкі”, **Ніна Куптэль** з Новага Корніна, **Людміла Дзмітрук** з Курашава, **Янка Карчэўскі** з Чыжоў, **Галіна Трашчотка** з Дубіч-Царкоўных, **Зінаіда Сельвясюк** і **Анна Гаўрылюк** з Махнатага, **Ганна Кандрацюк** з Нараўкі, **Міраслава Маркевіч** з бельскай „тройкі” і **Васіль Сегень** са Старога Корніна. Тут трэба адзначыць, што ў конкурсе для настаўнікаў, якія папулярызавалі „Зорку”, перамаглі: **Ніна Абрамюк**, **Вера Фляpчук** і **Аліна Ваўранюк**. Узнагароду за творчае супрацоўніцтва „Зорка” прысвоіла настаўніцы **Валянціне Бабулевіч** (урачыстае завяршэнне конкурсу адбудзецца ў жніўні г.г.).

Варта згадаць таксама пра **конкурс на змену віньеткі і назвы старонкі**. З увагі на тое, што многія чытачы жадалі астацца пры старой назве і да таго не было цікавейшых прапаноў, мы рашылі назву старонкі не мяняць.

На канец хацелася б яшчэ сказаць і пра заангажаванне бацькоў нашых чытачоў. Іх цёплыя і энтузіястычныя пісьмы, а таксама рэальная дапамога ў арганізаванні „Творчых сустрэч «Зоркі»” пярэчаць агульнавядомым чуткам, што быццам бы беларусы не хочуць перадаваць сваю спадчыну дзецям.

„Зорка” мае вельмі багатыя планы на будучыню. Нашай марай ёсць арганізаваць і далей „Творчыя сустрэчы”, пашырыць літаратурныя і журналісцкія зацікаўленні (пасля пачатковай школы нашы карэспандэнты павядуць „Старонку ліцэіста”, а пасля адродзяць студэнцкую „Прысутнасць”) і пераканаць, што веданне роднай культуры гэта бясспрэчнае чалавечае багацце.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

*Фота аўтара*

## Вершы Віктара Шведа

### Аграмадны тэлевізар

Упершыню маленькі Патрык
У крэсле выгадна сядзеў
У гарадскім кінатэатры
На кінафільме „Кароль леў”.

Потым, вярнуўшыся дахаты,
Ён свайму тату ўспамянуў:
— Там тэлевізар маюць, тата,
На ўсю вялікую сцяну.

### Якія звяры даюць малако?

Спытаў настаўнік малышоў:
— Якіх мы ведаем звяроў,
Што ўсім нам ад спакон вякоў
Даюць заўсёды малако?

Малы Андрэйка адказаў:
— Гэта карова і каза,
А таксама мая мама:
Яна корміць грудзьмі Адама.

### Муха ці перац?

Азваўся сыночак:
— Матуля, паслухай,
Вось у мой супочак
Уляцела муха.

— Муха? Немагчыма!
Перац, сынок мілы.
— А перац з вачыма?
І мае ён крылы?

# Легенды Беластоцкай зямлі

## Прапітая грамата

Каму як каму, але стральцам Богушам, што сцераглі Малявіцкую пушчу, пры вялікіх князях жылося няблага. Праўда, пільнаваць разлеглы лясны абшар, што працірауся ад рэчкі Кладзевы на захадзе і да самай ракі Свіслачы на ўсходзе ды ад ракі Нетупы на поўдні і да ракі Ласоснай на поўначы, не было лёгка. З усіх бакоў на пушчу прагна зырыліся і навакольныя сяляне, і баяры, бо гэта ж кожнаму да спадобы і дрэва на будову і ўсялякія гаспадарчыя і хатнія прылады, і цяпельца ў хаце, і ягады, і грыбы, ну і звер, калі пашанцуе паставіць удалую пастку. Таму і трэба было і ў дзень, ды асабліва ўночы не спускаць ні вока, ні адхіляць вуха ад даручанага абрубу*.

А і пра пушчанскую жывёлу дбаць прыходзілася, каб яна тут і вадзілася, і пладзілася. Таму што ад самай мізэрнай курапаткі да самага волатнага тура, што гнездаваліся ў пушчы, — усё лічылася гаспадарскай уласнасцю. Гаспадарам жа ў тыя часы даўнія ўслаўлялі вялікага князя — уладальніка ўсяе даўнішняй беларускай дзяржавы, Вялікага княства Літоўскага. А князю і ягонай княгіні ды незлічонаму двару іхняму надта ж прыйшліся да спадобы тутэйшыя маляўнічыя, здаровыя і — дзякуючы дбанню стральцоў — вельмі багатыя розным зверам ды птушкай лясы.

Як прыязджаў гаспадар з дварам на паляванне, даводзілася тады богушаўскім стральцам клапаціцца, каб пад княжацкія арбалеты* ахвотна беглі натоўпам туры, зубры, ласі, дзікі ды іншая жыўнасць. І, відаць, богушаўцы, як належыць, выслужваліся, калі князь даў ім такую грамату, паводле якое мелі яны столькі вольнасцяў і прывілеяў, быццам былі не гаспадарскімі служкамі-стральцамі, але сама меней вялікакняжацкімі панцырнымі баярамі*.

З таго часу жылося богушаўцам вальней вольнага. Жаніліся ды выходзілі замуж па сваёй волі. Не па княжацкаму загаду. З валокаў сваіх ні табе дзякла*, ні іншай даніны не давалі. З пушчы бралі, што хацелі. Толькі таго і клопату ў іх было, каб княжацкае добра даглядаць.

Ад зайздрасці Богушам уся акруга аж зелянела, але нічога ўчыніць не магла, бо што запісана пяром, таго не высечаш і тапаром, асабліва, калі тое пяро княжацкая рука вадзіла!.. Даверылі богушаўцы гэты бясцэнны дакумент свайму старасту і строга-настрога наказалі сцерагчы яго, як зрэнку вока. Хацелі яны, каб і нашчадкам ласка княжацкая служыла. І вялася так з пакалення ў пакаленне: цівуны ўсе навакольныя вёскі на паншчыну штодня гоняць, а Богушы, бы баяры, па хатах сядзяць, або на сваіх палетках корпаюцца ці па пушчы бадзяюцца.

Спакусіў жа нячысты сялян з Панятовічаў, якія ў трох мілях* ад Богушаў,

# Пра конкурс паэзіі і прозы



*Жанэта Роля (злева) і Юстына Каролька.* Фота Міколы ВАЎРАНЮКА

Сёння хачу Табе, „Зорка”, напісаць пра свае ўражанні ад урачыстасці ўручэння ўзнагарод удзельнікам I Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы.

Уручэнне ўзнагарод адбылося 23 мая ў Бельскім доме культуры. Чытачы „Нівы” напэўна чыталі ўжо пра гэты конкурс.

Напачатку адзін з арганізатараў адчытаў вынікі конкурсу і яго ацэнкі. Пасля наступіла ўручэнне ўзнагарод. Вылучаныя асобы атрымалі грашовыя ўзнагароды. Усе ўдзельнікі конкурсу прачыталі па два свае творы. Адбыўся таксама канцэрт у выкананні Дарафея Фёніка. Пасля нас пачаставалі ласункамі і фруктамі.

Было цікава і весела. Усе добра гулялі. Маю новых сяброў. Пазнаёмілася я з цікавымі асобамі. Усе былі сімпатычныя.

Варта звярнуць увагу на творчасць усіх удзельнікаў. Вершы былі вельмі добрыя.

Гэтым пісьмом я хачу падзякаваць усім арганізатарам конкурсу за тое, што яны стварылі магчымасць паказаць нашы здольнасці. Напэўна ўдзел у конкурсе змабілізуе нас да далейшай творчасці.

Хачу таксама выказаць пашану для ўдзельнікаў конкурсу. Я ведаю, што гэта няпроста напісаць верш ці іншы твор. Трэба ў гэта ўкласці многа сэрца і працы.

**Жанэта Роля**
**кл. V „а” ПШ № 3**
**у Бельску Падляшскім**

**Ад рэдакцыі:** У сённяшняй „Зорцы” друкуем вершы Жанэты Ролі і Юстыны Каролька, лаўрэатак I Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы.



*Малюнак Паўла КУБАЕЎСКАГА з Орлі.*

# Вучнёўская творчасць

*Юстына Каролька*

**дом дзядулі**

брамка адкрыта
на кагосьці чакае
аднак і так ніхто сюды не прыйдзе
усё ў траве
— чыёй рукой засеянаю
замкнёны вокны і дзверы
сцеражэ павуціна
перад дзённым святлом

мінулае
— бышцам белыя кветкі вясны
на замёрзлай шыбе

* * *

адзіноцтва ў штодзённым натоўпе
амаль непрыкметнае
за шклянай пакрывай людзей
не відаць што іду сама вуліцай слоў
але калі я адна ў пакоі
за вакном поўным зор
за хмарай мараў
чую толькі маё дыханне

*Жанэта Роля*

**Бацькам**

Многа ўсяго можа здарыцца!
Бываюць часамі такія дні,
Што цэлы свет засвеціцца
Ад яркага шчасця,
Ад песні ў душы.
Многа ўсяго можа здарыцца!
І гора трэба пражыць,
У моры слёз утапіцца
Ад нечаканай бяды,
У сумныя дні.
Многа ўсяго можа здарыцца!
Аднак найбольш цаніць трэба,
Што ў мяне ёсць з кім падзяліцца,
Няхай і сухім,
Кавалкам хлеба.

**Бярозка**

Дрэўца, што заглядаеш,
У вакно маё спяваеш —
Ці таксама чакаеш
Сонца веснавога?
Ці табе таксама дакучае
Цяжкае паліто,
Ці вельмі хочаш скінуць яго?
Распусціць доўгія косы,
Каб памачыў іх цёплы дожджык.
А як жа прыемна будзе на камені
Сесці вясною ў тваім цені.
І разам паслухаем спеў салаўя —
Дарагая бярозка — сяброўка мая.

# Дайшлі да фіналу

Нас завуць **Лукаш Весялоўскі** і **Міхась Сцепанюк**. Мы вучні класа V „е” Пачатковай школы № 3 у Бельску-Падляшскім. 1 чэрвеня ў нашай школе адбыўся турнір таварыскага танца. Мы прымалі ў ім удзел.

У гэтым турніры ўдзельнічалі пары з Бельска-Падляшскага, Беластока, Варшавы і Харошчы.

Удзельнікі турніру былі падзелены на некалькі груп. У нашай групе было 15 пар. Мы вельмі баяліся. Страх адышоў, калі мы пачалі танцаваць. Спачатку быў паўфінал. Мы думалі, што не пяройдзем далей. Аднак мы і нашы партнёркі дайшлі да фіналу. Міхась з сяброўкай занялі другое месца, а Лукаш — чацвёртае.

Мы вельмі задаволены поспехам. Хочам, каб такія турніры адбываліся часцей.

**Твае чытачы**
**Лукаш і Міхась**

# Польска-беларуская крыжаванка № 27

**Адказ на крыжаванку № 22:** Вясна.

**Магічная крыжаванка:** гром, руда, одум, мама.

Узнагароды — фламастэры — выйгралі: **Данута Каролька** з Нарвы і **Марцін Мялешка** з Новага Корніна. **Віншуем!**

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| żagiel / wakacje | | Mikołaj / nora | | ceber | alchemik | | pragnienie / nagietek | | | |
| | | | | | | | | ■ | | |
| rzeka / rodak | | | | | ■ | | Baba... / czas | | | |
| | | | | | | | | rak | | |
| słonina / jar | | | | | Marta | | | | | |
| | półmisek, talerz | | | | | | | | | ■ |
| | | | byk / róg | | | | wieloryb | | | |

на ўсходнім узлессі Малявіцкай пушчы, над рэчкаю Прорваю сядзелі і тым толькі жылі, што з княжацкай пушчы на злосць богушаўцам ухапілі. І як настаў у Богушаў старастам Пастольчык, якога ад кварты з гарэлкаю і за вушы не адцягнеш, тыя ж панятоўшчыкі кінуліся на хітрыкі. Заманілі яны таго Пастольчыка ў сваю карчму, пахвалілі яго за стралецкую зухаватасць, чарку яму паставілі ды запрасілі часцей да іх наведвацца.

Стаў той Пастольчык пры кожнай нагодзе, а больш за ўсё без нагоды ў панятовіцкую карчму заглядаць. Панятоўшчыкі паілі Пастольчыка ды аднойчы падсмяяліся, што, маўляў, Богушы бяспраўна сваімі вольнасцямі ды прывілеямі карыстаюцца, не маючы на тое ніякага права. Падпіты Пастольчык з-за такой абразы ўскіпеў ды кажа: „Я вам заўтра княжацкую грамату прынясу, дзе ўсе нашы правы чорным па белым выпісаны і княжацкай уласнай рукою пацверджаны!..” — „Ну-ну, прынясі-прынясі, паглядзім, — яму на тое панятоўшчыкі. — Калі яно праўда, дык не адну кварту тут асушым ...”

Пастольчыка ж два разы прасіць не трэба было, тым болей калі дармовай квартай запахла. Другога дня, ледзь сонца з-за пушчы вызірнула, ён ужо з граматаю пад пазухай у панятовічаўскую карчму заявіўся. Разгарнуў той пергамент з праўдзівым княжацкім подпісам ды пячацямі ў чырвоным воску адціснутымі ды шаўковымі шнуркамі да граматы прывешанымі.

Зірнулі панятоўшчыкі на той дакумент ды — цап! — яго і — бух! — у палаючую печ. Войкнуў Пастольчык, кінуўся ў агонь, але толькі рукі апёк, бо полымя грамату ўміг праглынула. Пастольчык у крык ды ў бойку, але панятоўская грамада стаўкла яго на кіслы яблык, са свае вёскі вытурыла ды ямчэ сабакамі нацкавала.

З таго часу давялося Богушам, як і ўсім іншым тутэйшым смердам*, на паншчыну хадзіць, даніны розныя даваць ды ў рэкруты сваіх хлапцоў адпраўляць, а на дадатак — па-ранейшаму Малявіцкую пушчу пільнаваць. Ды, відаць, да таго пільнавання яны слаба прыкладваліся, бо ад тае дрымучай пушчы адно дзе-нідзе рэдзенькія пералескі засталіся.

*Пачуў і пераказаў*
**Мікола Гайдук**

**Абруб** — значны кавалак пушчы або лесу, межы якога абазначаны зацёсамі („абрубамі”) на дрэвах.

**Арбалет** — інакш — самастрэл; старажытная ручная зброя (карысталіся ёю з X па XVI стагоддзі), складалася яна з лука і ложа з прыкладам. Стралялі з арбалета стрэламі.

**Баяры** панцырныя — сярэднезаможная шляхта ў Старажытнабеларускай дзяржаве. Яна за бясплатнае карыстанне некалькімі дзесяткамі гектараў зямлі, сенажаці і лесу, асабістую свабоду і іншыя прывілеі была абавязана служыць у войску са сваёй зброяй („у панцыры”) і на ўласным кані па кожнаму загаду князя.

**Дзякло** — даніна сялян пану або князю збожжам, сенам, жывёлай ці грашыма.

**Міля** — колішняя мера адлегласці, на беларускіх землях складала каля 5 км.

**Смерд** — прыгонны паншчынны селянін.

# Радзіма – Родзіна

**Частка LII**

Сёння прывяду апошнія фрагменты выказванняў аб радзіме беларускага эмігранта ў Англіі Янкі Міхалюка. Выказванні гэты мелі месца ўжо пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Новым элементам разважанняў Янкі Міхалюка былі ацэнкі беларусаў з Польшчы, якія досыць часта наведвалі Скарынінскі цэнтр у Лондане.

„Вы ведаеце, спадар Алесь, што хаця мы тут на Захадзе і працавалі для справы незалежнасці Беларусі, але аб'яўленне гэтай незалежнасці ў немалой ступені нас заскочыла. Ну, яно вядома, што гэта незалежнасць пакуль што не поўная, аднак многае на нашай радзіме змянілася. Ну, перад усім новае тое, што пачалі да нас прыязджаць людзі з Беларусі і ўрэшце мы можам прыгледзецца да гэтых людзей зблізку.

Ну, вядома, хочаш ці не хочаш, а калі бачыш гэтых беларусаў з былой Савецкай Беларусі, то адразу параўноўваеш іх з беларусамі з Польшчы, якія да нас прыязджаюць ужо каля дзесяці гадоў. І вы ведаеце, спадар Алесь, я хачу вам шчыра сказаць, што такое параўнанне не заўсёды ў карысць беларусам Беласточчыны. Ну, праўда, беларусы з Беласточчыны то больш свабодныя і смелыя, чым беларусы з Беларусі, але мне здаецца, прабачце, што вам гавару аб гэтым, беларусы з Беласточчыны болей хітрыя, чым тыя з Беларусі. Тыя з Беларусі, то вельмі малапатрабавальныя і відаць, што вельмі ўдзячныя, нават тады, калі мы зробім для іх найменшую паслугу ці дапамогу, а беларусы з Беласточчыны то зусім іншыя. Вядома, што не ўсе, але многія з іх выразна хочуць выцягнуць для сябе як найбольш грошай або рэчаў. Я вам скажу канкрэтна аб некалькіх такіх сітуацыях. Ну, па-першае, то амаль усе беларусы з Беласточчыны прыехаўшы да нас, гавораць, што іх праследавалі камуністы, што яны вельмі бедныя. Вы, ведаеце, калі глянеш на чалавека, на яго твар, то адразу бачыш ці ён добра харчуецца ці ён жыве ўпрогаладзь. Ну а вопратка, то таксама гаворыць аб матэрыяльным стане жыцця. То я вам скажу, што ад вас то ніхто да нас не прыехаў замораны або апрануты ў абы-што. Ну, можа на чалавека, які жыве ў прогаладзе, выглядаў ваш лекар Г. Але аказалася, што яго благі выгляд залежаў ад страўнікавае хваробы, не ад голаду.

А цяпер то я вам, спадар Алесь, прывяду толькі два прыклады на хітрасць некаторых беларусаў з Беласточчыны. Вось у нас быў такі выпадак. Прыехаў да нас з Польшчы студэнт С. Ну то мы тут ім займаліся як толькі маглі. Асабліва памагаў яму айцец Надсан. Ну, ведаеце, і пакой яму далі, і поўнае штодзённае ўтрыманне, і грошы на пераезды ў горадзе, і на музеі. А ён, ад'язджаючы, пайшоў да айца Надсана і выразна незадаволеным тонам сказаў, што ён і яго калегі будуць прыязджаць у Лондан пад варункам, што мы будзем гарантаваць кватэру, ежу, пераезды і 150 фунтаў на рукі. Ну то яму айцец Надсан сказаў, што мы будзем забяспечваць пакоямі і пасцеллю, і ежай, і білетамі, але не думаем даваць па 150 фунтаў, бо няма за што даваць. Ну і ён узяў і абразіўся. А другі выпадак то быў яшчэ лепшы. Прыехаў да нас з Беластока адзін вядомы чалавек з жонкаю. Ён увесь час гаварыў аб сабе, што ён ахвяра камуністаў. То вядома, што ў такой сітуацыі, то тут усе яму памагалі вельмі моцна. Скажу вам толькі тое, што калі ён выязджаў, то толькі валок тавару, што на лётнішчы, хаця мог везці бясплатна па дваццаць кілаграмаў з жонкаю, то аказалася, што за ўсю надвагу багажу трэба было заплаціць 180 фунтаў, значыцца, каля дзвесце пяцьдзесят долараў. Ну і мы гэту суму за яго заплацілі. Ну і знаеце, што гэты чалавек, вярнуўшыся ў Беласток, напісаў, што айцец Надсан гэта вельмі скупы чалавек, бо шкадаваў яму грошай. Падумайце толькі: жыў тут з жонкаю, карыстаўся кватэрай, еў нашу ежу, узяў ад нас кучу тавараў за нашы грошы, мы заплацілі за надвагу на лётнішчы і ён нас апляваў, што мы скупыя! То як гэта трэба назваць? Гэта ж чалавек без гонару.

Хачу вам сказаць, што тыя, хто прыязджае з Беларусі, не такія людзі. У іх не відаць хітрасці і хцівасці. І як жа яны ўдзячныя за найменшыя дробязі. Вядома, гэта зусім іншыя людзі, чым некаторыя ад вас. Вядома, што не ўсе такія і ад вас. Многія вельмі сціплыя і чалавечныя, але ёсць і такія, аб якіх я вам сказаў. Я не ведаю, адкуль гэта ўзялося. Можа такая хітрасць перайшла на вашых беларусаў ад палякаў. Я не ведаю, але вы павінны аб гэтым задумацца.

А ўвогуле, то хачу вам сказаць, што паўстанне незалежнай Беларусі, то для нас тут вялікая радасць. Толькі мы тут баімся ці беларусы добра спажыткуюць гэту незалежнасць, бо бачыце вельмі ж ужо моцна рускія ўзялі нашу Беларусь пад пяту.

Ну, але ўсё роўна, як яно будзе, то нам здаецца, што ўжо Сталіны і Берыі то ў Беларусь не вернуцца.

Нам тут айцец Надсан безупынна гаворыць, што калі Бог даве́ў да незалежнасці Беларусі, то і цяпер не пакіне без апекі наш народ. Мы моцна ў гэта верым".

**Алесь Барскі**

**Кацярына Сахарчук**

# Мужчыны майго жыцця

Першым і самым галоўным мужчынам у маім жыцці быў мой каханы татка. Гэта дзякуючы яму я з'явілася на гэты свет. Ён пастараўся знайсці цудоўную жанчыну, маю маму, і разам з ёю ў працэсе вялікага кахання стварылі мяне — прыгожую і разумную-разумную бландзінку з блакітнымі вачыма. Я моцна ўдзячная яму за гэта.

Задумоўваючыся над таінствам майго стварэння, не раз я задаю сабе пытанне: ці сапраўды мой татка такі ўжо геніяльны спецыяліст у гэтай галіне, ці яму са мною проста ўдалося?..

Першага свайго мужчыны хапала мне даволі доўга. Спакойненька жыла я з ім і пажывала аж да дванаццатага годзіка ад нараджэння. Калі гэта, на маё няшчасце гэтым разам, паявіўся новы рыцар у маім жыцці. Быў ім мой школьны сябрук. Ён спадабаўся моцна мне і з кожным годам падабаўся штораз болей. Чаго я толькі не рабіла, каб звярнуць яго ўвагу на сябе, а ён нічога.

— Пачакай, пачакай, ты неразумны хлапчына, — злавалася я. — Сарганізую толькі шыкарны дзень свайго нараджэння, тады мусіш заўважыць ты мяне, ды і бускі мусіш імяніннніцы салідная даць — тады ўсё ты зразумееш...

Канфуз мяне чакаў на гэты раз страшэнны. Мой хлопец запытаў, ці можа прыйсці на імяніны са сваёй дзяўчынай.

Так шаснаццатыя мае ўгодкі пачалі пераварацца ў памінкі.

Бог выслухаў аднак маіх малітваў і мой хлопец прыйшоў на імяніны сам. Але шчасця ад гэтага мне было мала. Калі прызналася я яму ў сваім каханні да яго, мой ідэал захаваўся як ідыёт. Зрабіў страшэнную грымасу і ад таго часу ўцякае ад мяне, як чорт ад свянцонай вадзічкі.

На злосць яму я рашыла закахацца ў кімсьці іншым, але нічога з гэтага не атрымалася, бо хто ж мог раўняцца з ім?

Наступны мой мужчына падабаўся, на жаль, не толькі мне, але і найлепшай маёй сяброўцы. І мы супольна і дэмакратычна рашылі, што дзявочае сяброўства павінна быць вышэй нейкага там мужчыны. І салідарна абедзве пакінулі яго. Можа і сёння, бедны, плача?

Цяжка адхварэўшы свае сардэчныя няўдачы, я зноў стала жыць па меры спакойна і шчасліва, задавальняючыся першым сваім мужчынам. Гэтая ідылія трывала два гады.

І зноў бяда. Няйначай чорт наслаў на мяне яшчэ аднаго „цудоўнага", каб яго халера была ўзяла.

Як цяпер, ужо ў цвярозым стане, я падумаю, дык не ведаю, чым ён мог мне імпанаваць. Невысокі, небагаты, лысаваты, праўда, у навуках і танцах ён проста віртуоз.

І зноў, запрасіла яго я на свае, ужо васемнаццатыя імяніны. Ён прыйшоў, многа еў, піў ды бушаваў на паркеце.

Але калі сяброўка запрасіла нас на свае імяніны, ён абсалютна не пачуваўся да таго, што мы пара ды як неразумную дзяўчынку ўвесь час павучаў мяне, што такое „бэ", а што такое „цацы". І ўсё сцярпела, бедна, я. Але калі пачаў ужо наракаць, што праз усе дзесяць гадоў ён беспаспяхова чакае вялікага кахання і, відаць, не знойдзе ўжо яго, не сцярпела я.

— А ідзі ты к чорту, хрэн табе ў вочы! Не кавалер, а дурыла ты! Не з дзяўчынай, а з кабылай сябраваць табе трэба!

І зноў мы з таткам пара.

А цяпер, дзяўчаты, мая навука вам. Мы — жанчыны канца XX стагоддзя і свой гонар павінны мець. Не бегайма за абы-якімі нагавіцамі, бо не ў кожных нагавіцах шчасце.

Байкот мужчынскім нагавіцам!!!

*Праца ўзнагароджана на I Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы.*



*Сапраўдны мужчына.* Фота С.Грынявіцкага

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

### Покліч

Па волі ног нясуцца колы
сонным асфальтам.
Дрэва па дрэве абудзіць птушка,
сцэзне здранцвенне.
Жыццё ў колах поўніцца
граннем — вясна ў бутонах.
Імгла апала.
І спунсавелі
ў сонечным пацалунку
вусны.
Птушка ўзляцела
і на галінцы села высока.

### Абуджэнне

У сонечным блакіце даспявае
сонца. Насцярожаны дрэвы,
хутка выбухнуць квеццем.
Ужо птушкі разносяць
на канцэрт запрашэнні.
Пушча рыхтуецца да ўзлёту.

### Таямніца

Прастору,
у якой жыву,
і якая ўва мне,
і мэблю ў кватэры,
і камяні на вуліцы —
кранаю.
І ціхі гоман,
далёкі і блізкі,
быццам з таго свету —
чую.
Жыцця ўгнутасць
і пукатасць,
ды не поўную —
бачу.
Дарога вузкая,
як нітка,
думкі ў выбоінах,
грэзнуць у расколіне
чорнай.
Пацею на градках
над кожнай жывінкай,
бы з дзённіка,
з лісцяў
чытаю.
Ужо толькі год,
і дзень за днём,
а канверт з азбукай
на крок далей,
якраз за вызначанай мне
рысай.

### Вясновае

Як лес цвіце,
хвіліны ў матылях жывуць,
і ап'янелы мастак
у красках світання малюе.
У вобразе ляшчына
і вярба,
і ландыш,
і голас абуджаных птушак,
і празрыстыя, як паветра,
вірлівыя крылы,
і ў расцягнутай прасторы,
як у шатры арыентальным,
усяму сваё месца.
Калі лес цвіце, узнімаю
чарку за здароўе зямлі.

### Белы вечар

Аж па край зелені
бела-развітальны
танец дня.
Імгла на разгойданых
крылах, як ніва
ў калысцы ветру.
І ўсё мімалётнае,
і ўсё памылковае,
як кастры на балоце.

# Калі землягробу лячыцца?..

— А калі ж мне лячыцца? — ставіць пытанне Ніна Пятэльская з Меляшкоў у Гарадоцкай гміне. Так запытаецца не адзін селянін. — А вось і ў санаторый мяне пасылаюць. А калі туды ехаць? Хіба што позній восенню ці зімою, бо ўсё работа ды работа... Гаспадарку яшчэ маем, абрабляем. Але ж майму Валодзю будзе цяжкааднаму справіцца з жывінаю, з гаспадаркаю... У гадах ужо мы абое. Не то што чалавек, і машына жалезная псуецца...

У санаторыі сялян накіроўвае КРУС — Каса сялянскіх грамадскіх страхаванняў. Рэгіянальны аддзел накіроўвае да васьмі цэнтраў рэабілітацыі толькі тых, хто застарахаваны (аплаціў страхавочны ўзнос), у „прадуктыўным" узросце (жанчына да 55 гадоў, мужчына да 60), якія часова страцілі здольнасць працаваць. Прапанову накіравання ў санаторый дае лекар амбулаторыі, у якой лечыцца селянін. Пабыўка (24 дні) у санаторыі і даезд — бясплатныя.

Вельмі цяжка было спачатку намовіць сялян карыстацца такой формай аховы здароўя (пачала дзейнасць ад ліпеня 1992 г.), пасля зацікаўленне пабольшылася. Рэгіянальны аддзел КРУС у Беластоку ў 1992 г. адправіў на лячэнне ў санаторыі толькі семнаццаць асоб, цяпер выбіраецца ў санаторыі па 200–300 чалавек у год. Вядома, сяляне выбіраюць *турнусы* ў восеньска-зімовы перыяд, калі менш працы іх чакае дома.

У спадарыні Ніны, як у шмат якіх сялян, перш за ўсё патрэба ў лячэнні канечнасцей. „Адрабіла я ўжо свае рукі ды ногі, — паказвае на балючыя суставы. — І раматус мяне мэнчыць, найбольш у каленях". Шмат сялян наракаюць яшчэ на праблемы з сэрцам, неўралагічныя, пасля нешчаслівых выпадкаў у гаспадарцы. Трапляюць на лячэнне ў Івоніч-Здруй, Гарынец-Здруй, Калабжэг, Налэнчаў, Буска-Здруй, Цехацінак... Найбольш, як вынікае са статыстыкі рэгіянальнага аддзела КРУС у Беластоку, з ваколіц Дубровы і Гайнаўкі.

— На старасць амаль кожны земляроб — ужо інвалід, — мяркуе цётка Ніна, мучыў свае далоні, што нарабіліся за ўсё жыццё, выгадавалі чацвёра дзяцей. — Але хто мае час хадзіць па лекарах! Па тых камісіях! Колькі раз так бывае, што чалавек „выхадзіць" урэшце тую рэнту, а ўжо мала яму асталося хадзіць па белым свеце... То КРУС, то ЗУС, часам і суд, набегаешся!..

Аб інваліднасці сялян вырашаюць акруговыя лекарскія камісіі па справах інваліднасці ў ЗУС. У склад такое камісіі ўваходзіць двух лекараў-спецыялістаў і прадстаўнік ЗУС. Адмоўны адказ у сярэднім даецца на каля 30% заяў. У другой інстанцыі і перад судом таксама шмат заяў вырашаецца адмоўна. Падставай прызнання сялянскай рэнты ёсць рашэнне палічыць селяніна няздольным да працы ў сельскай гаспадарцы. Каб абмежаваць прызнаванне рэнт і дапамагчы земляробам вярнуцца да здароўя, арганізуецца дарэнтавая рэабілітацыя. З Беластоцкага ваяводства накіроўваецца на такую рэабілітацыю больш за дзвесце асоб. Спадарыня Ніна таксама карысталася такой дапамогай, ездзіла на рэабілітацыю ў Беласток, і выразна паправіўся стан яе здароўя.

— А хто там мае час лячыцца... — мяркуе гаспадыня з Меляшкоў. — Гаспадарка не мае часу чакаць тваіх рук...

Праца, праца, праца... Выхаванне дзяцей. Трое, чацвёра, як у Ніны Пятэльскай, пяцёра, як у Галены Альховік з Сакалды... За ўсё ім, вясковым гаспадыням, вялікі дзякуй. Хоць у адзін дзень, святочна апранутыя, медаль дастануць, „Медаль за сэрца". Такі прызнае Галоўная рада Згуртавання сельскіх гаспадынь. Ніна Пятэльская цешыцца і ім: лякыць ён, ззяе ў яе набалелых руках.

**Міра Лукша**

*Фота аўтара*



*„Медаль за сэрца" для сельскіх гаспадынь. Злева: Галена Альховік і Ніна Пятэльская.*

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг; пачатак у 18 н-ры)*

Паводле маіх інфарматараў, у матэрыяльным сэнсе жылося тады намнога цяжэй, чым цяпер, але нейк больш стабільна, аптымістычна, весялей. Многія жылі вельмі сціпла, але штораз больш паяўлялася і добрых, заможных гаспадароў. Нямала нашых сялян мела ўжо свае грошы ў банках. Ім было проста дзіўна, што палажыўшы грошы ў банк, яны там прырастаюць. І менавіта гэты фактар быў ім найбольш пераканаўчы для такой формы ашчаднасці. Царская валюта была моцная, стабільная: хочаш бяры папяровую, хочаш — з чыстага золата. Нашым людзям больш падабаліся папяровыя грошы, бо былі больш чытэльныя і практычныя, на чым многія з іх моцна пазней прагарэлі.

Кожная наша вёска жыла сваім жыццём, біла ўласным пульсам, паводле сваіх традыцый і няпісаных, але цвёрдых законаў. Многа было ў яе жыцці добрага, цікавага, але нямала было таксама і адмоўнага. Як хаця б спамянутае ўжо мною п'янства і п'яніцы. А там дзе п'юць, як вядома, там авантуры і бойкі. На вяселлі ў дзедавай дачкі Ганны хлопцы таксама напіліся, пабіліся і нават аднаму з іх швайкай сраку пракалолі. Іхныя сракі не былі такія далікатныя, як нашы, і без медыцынскай дапамогі хутка гоіліся самі.

Было таксама і зладзейства, хаця лічылася яно і вялікай заганай, і грэхам. Я сказаў бы нават, што зладзеі і зладзейства ў той час больш сурова асуджаліся ў народзе, як цяпер.

У дзеда Амяльяна, напрыклад, аднойчы ўкралі адразу пару добрых коней. Дзед здагадаўся, хто гэта зрабіў, і ніколі не мог выбачыць яму такой крыўды. Цікава, што не падазраваў дзед у крадзяжы сваіх коней вясковага прафесіянальнага і, можна сказаць, штатнага злодзея, бо меўся ў вёсцы і такі, а падазраваў нібыта і не злодзея. Гэты штатны злодзей меў, так бы мовіць, свой прафесіянальны гонар — краў, але не так, каб згубіць чалавека. І аднавяскоўцы адчувалі гэта. Крадзеж каня селяніну была заўсёды велізарнай стратай, бо што значыць гаспадар без каня? А купіць адразу другога далёка не кожнаму было па кішэні. Карысці ж злодзею з каня было тады нямнога, бо трэба было дзяліцца з многімі пасрэднікамі. Значыць, займацца гэтым мог толькі бязлітасны і бязбожны хамула. Штатны ж злодзей быў яшчэ моцна набожным чалавекам: высока цаніў хрысціянскія вартасці, часта і многа маліўся, абавязкова абдорваў усіх жабракоў або фундаваў ім бясплатныя абеды. Так і пражыў сваё жыццё — памёр ён на старасці год.

Хаця і не багата, але весела жылося ў тагачаснай вёсцы нашай. Было мноства розных жартаўнікоў, хохмаў і фокусам якіх проста канца не было.

І так напрыклад, жыў у нашай вёсцы вельмі скупы чалавек, Назаром яго называлі. Вучнёўская школьная моладзь, дзеля жартаў, напісала яму даплатное пісьмо. Звычайныя пісьмы прыходзілі ў валасць, а за даплатным трэба было даставацца ў Бельск. Пісьмы ў той час не часта і не ўсе пісалі і атрымоўвалі, таму вестка аб пісьме на бельскай поште моцна заінтрыгавала Назара. Ён хуценька паехаў туды, выкупіў ліст і прывёз яго дадому. Урачыста адкрылі яго дома і прачыталі: „Здравствуй, Назар! Прощай Назар". І ўсё.

Ну ж і папаплаваў і папалаяў Назар жартаўнікоў, а вёска рагатала.

Адна жанчына вельмі верыла ў розных чарцей і ведзьмаў. Глыбокай ноччу, калі ўсе ўжо спалі, хлопцы-жартаўнікі адкрылі акенца іх хаты і ўпусцілі туды барана. Перапужаны баран пачаў пабэкваць і тупаць са страху нагамі, такая ўжо натура ў барана. Пачуўшы гэта, кабеціна ўстала, запаліла святло і ў крык страшэнны: „Чорт! Чорт! Чорт!" Устаў і муж на крык і да жонкі: „Гэта ж баран, а не чорт!" А жонка далей сваё: „Ён стаў бараном, калі я яго перахрысціла, дурнічку!"

І зноў смех на ўсю вёску.

У хату дзеда Амяльяна прыходзіць яго добры знаёмы з суседняй вёскі, вымае з кішэні паўлітра гарэлкі, ставіць яе на стол і гаворыць: „Ты добры чалавек, Амяльян, і варты ў мяне, таму хачу з табой выпіць".

Амяльян, задаволены, што так шануе чалавек яго і напэўна ж што трапляецца такая выдатная дурніца, хуценька падрыхтаваў закуску, расставіў яе на стале, паставіў кілішак, культурненька запрасіў госця за стол і сам прысеў да стала. Госць дастойна засеў за стол, адкаркаваў бутэльку, наліў у кілішак і са словамі: „То будь здороў, Омэлян", выпіў, абцёрся рукавом, дакладна закусіў. Зноў наліў, зноў сам выпіў і закусіў. І яшчэ раз тое ж самае. Потым рэшту дакладненька зноў закаркаваў, схаваў бутэльку ў кішэню і са словамі „То будэм тэпэр у рошчоті, Омэлян" пайшоў.

Амяльяну прыкра, хоць ты плач ад жалю, а вёсцы новая пацеха. І так навокал...

*(працяг будзе)*

# Крадзе той, хто мае грошы

*(працяг са стар. 1)*

дробныя рэчы: шакаладку, нейкі батончык. Вядома, хочацца салодкага, а ці ж кожнаму дзіцяці даюць грошы... Ловім крадучае дзіця, кажуць працаўніцы „Апалка", але ніколі не паведамляем у школу. Навошта рабіць дзіцяці такую крыўду? З малой справы этыкетку злодзея дзіцяці могуць прыклеіць на ўсё жыццё! Затое заўсёды паведамляем пра гэткі ўчынак бацькам. Найчасцей бацькі задаволены, што ўсё засталося ў сям'і, але калісь прыйшоў адзін бацька і зрабіў скандал, што абразілі яго сына. А мы ж і так стараемся рабіць усё вельмі далікатна, каб нікому не зрабіць крыўды. Гэта ўсё ж нашы кліенты!

Мы вельмі не любім, калі ў краму ўваходзіць група маладых людзей. Часта здараецца тады, што двое, як кажуць, загавараваюць зубы прадаўшчыцы ў зале, а двое іншых крадуць у той час тавар. Не дагледзіш — бяда.

А вось зусім нядаўна малады чалавек увайшоў на залу, свой рэчмяшок паставіў на каляску і пачаў рабіць пакупкі. Набраў кока-колы, розных кансерваў, дарагіх напіткаў. Усё пераклаў з каляскі ў рэчмяшок, надзеў яго на плечы, а ў калясцы — пуста. Калі мы спыталіся ў яго, дзе ён падзеў тое, што купляў, пачаў уцякаць. Мы выскачылі на двор, гонім яго, але ногі ў яго хуткія. Каля клінічнай бальніцы (PSK) мы згубілі злодзея.

Вярнуліся ў краму панурыя: ізноў давядзецца плаціць! Мінут праз дзесяць прыходзіць да нас нейкі мужчына і кажа, што бачыў, як мы гналі злодзея. Ён, кажа, зрабіў такі манеўр: перабег ля бальніцы на другі бок вуліцы, вярнуўся спакойна назад і сеў у аўтобус ля будынка універсітэта, у які сеў і я. Калі аўтобус крануўся, я падышоў да шафёра і сказаў, што ў аўтобусе ёсць злодзей. Прыязджаючы каля „Апалка", шафёр затрымаўся і выпусціў мяне, ды зноў зачыніў дзверы. Так што ідзіце і бярыце свайго злодзея, кажа.

Ну, дык мы яго ўжо не выпусцілі! Так што і сумленныя людзі часта нам дапамагаюць.

Ці здараюцца „рэцыдывісты", тыя, што крадуць не адзін раз? Так, але яны заўсёды крадуць на малыя сумы. Горш, калі трапіцца крыміналіст. Злавілі мы аднаго такога. Ён нават быў спакойны, пакуль мы не сказалі, што паведамім у паліцыю. На гэту вестку ён даслоўна ашалеў: кінуўся на нас, пабіў манітары, але мы яго не перапужаліся, сваё зрабілі.

Наогул, сцвярджаюць працаўнікі, той, хто сядзіць пры маніторы, мусіць быць добрым псіхолагам. Адразу відаць, хто ўвайшоў у краму з кепскім намерам. Той, што збіраецца ўкрасці тавар, паводзіць сябе зусім інакш.

**Ада Чачуга**

## Адгалоскі

# Ці варта весці палеміку?

У 24 нумары „Нівы" ад 16 чэрвеня г.г. у рубрыцы „Наша пошта" прачытаў я два лісты псеўдапатрыётаў беларускай справы. Па зместу відаць, што пісалі іх два хаўруснікі, бо закранулі адну і тую ж тэму.

Не магу падабраць слоў, якімі я хацеў бы выказаць сваё абурэнне ў адрас рэдакцыйнага калектыву „Нівы" за тое, што апублікаваў агідную хлусню, зневажаючую асабістую годнасць барацьбітоў за незалежны быт нашай Бацькаўшчыны ў асобах Зянона Пазьняка, Станіслава Шушкевіча, Сакрата Яновіча ды іншых. Ці рэдакцыя не прыкмеціла, што гэтыя дзве асобы: „чытач „Нівы" з Гайнаўкі" ды псеўданавуковец („prawnik naukowy na emeryturze") не хто іншы, як два правакатары? Сумняваюся ў тым, ці навуковы юрыст скончыў 7 класаў пачатковай школы, аб чым сведчыць складанасць ды лагічнасць фармуляваных сказаў. Гэтыя асобы папросту рэнегаты старога парадку, людзі гатовыя за іудаў грош адрачыся не толькі сваёй нацыянальнасці, але і прадаць роднага бацьку ці маці (па ўзору Паўліка Марозава). Ці ж мала было такіх псеўданавукоўцаў, якія для нейкай там кар'еры адракаліся сваіх прозвішчаў, замяняючы Карпюка на Карпінскага, Ліхача на Ліхадзіеўскага, Катоўскага, Казлоўскага ды гэтак далей? Дзеля чаго аўтары напісаных лістоў не падпісаліся сваімі прозвішчамі? Баяліся, каб чытачы не даведаліся іх цяперашніх „шляхецкіх" прозвішчаў, а можа яшчэ баяцца, што былая дзяржбяспека палічыць іх беларускімі нацыяналістамі? Што злачыннага для гэтых аўтараў зрабіў Сакрат Яновіч? Хіба толькі тое, што ў сваіх успамінах напісаў пра тое, як „афіцэры" пана Васілеўскага з дзяржбяспекі ды „актывісты" партыйнага камітэта намагаліся зрабіць яго ворагам нашае краіны. Аўтары лістоў ставяць закід Алегу Латышонку адносна Прытыцкага. Кім жа ў сапраўднасці быў Прытыцкі? Проста кажучы, платны забойца, на ўзор цяперашніх мусульманскіх тэрарыстаў. Ці Прытыцкі змагаўся за нейкую патрыятычную справу? Не, яго падгаварылі, абяцалі маладому вяскоўваму падлетку вялікую ўзнагароду ды ўручылі зброю асобы, падобныя на сённяшніх аўтараў лістоў. Рэзультат быў вядомы. Шкада, што Прытыцкі не апынуўся перад 1937 годам у БССР. Там спаткаў бы яго лёс вядучых дзеячаў польскай камуністычнай партыі: Кастшэвы, Варскага, Ленскага ды іншых, якія падчас судовага працэсу прасілі савецкіх суддзяў найвышэйшую меру пакарання — усіх расстралялі. А аўтары лістоў робяць закід З. Пазьняку, А. Латышонку, Ст. Шушкевічу, М. Грыбу ды іншым асобам, што гэта каталікі ды быццам бы праводзяць польскую палітыку на Беларусі і Беласточчыне. Адкуль нашаму псеўданавукоўцу вядома пра іх веравызнанне? Ці быў ён іхнім хросным бацькам? А калі на самай справе яны каталікі, дык што з таго, але яны — беларусы. Такі паклёп супроць апазіцыі на Беларусі вядзе каманда Аляксандра Лукашэнкі.

Паважаныя аўтары напісаная агіднай хлусні, заахвочваю вас уважліва пазнаёміцца з развіццём хрысціянства на Беларусі. Хачу спытаць аўтараў лістоў, кім быў па веравызнанні Францыск Скарына? А Янка Купала?

У міжваенны перыяд з 1920 года па 1939 г. на Заходняй Беларусі было шмат каталіцкіх ксяндзоў, якія запісаліся ў гісторыю Беларусі як вялікія барацьбіты за незалежнасць нашай краіны. Для прыкладу можна ўспомніць кс. Адама Станкевіча, кс. доктара Уладзіміра Талочку, кс. Язэпа Германовіча, кс. Язэпа Рэшаца, кс. Віктара Шутовіча, кс. Язэпа Татарыновіча, кс. Язэпа Семашкевіча з Ялоўкі ды шмат іншых.

Нагадаю, што кс. Адам Станкевіч у 1922 г. быў беларускім паслом у польскім Сейме. Да таго ж ксяндзы А. Станкевіч, Я.Германовіч, Ул. Талочка, Я. Рэшаць выдавалі беларускія часопісы ў міжваенны перыяд у Вільні. У склад рэдакцыйных калегій часопісаў „Хрысціянская Думка", „Зорка", „Калоссе", „Шлях Моладзі" апрача ксяндзоў уваходзіў Ян Пазьняк (дзядуля Зянона Пазьняка). Ян Пазьняк у 1937 і 1938 г. быў сакратаром Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. Арыштаваны ў 1941 г., загінуў у савецкім зняволенні. Дык, як бачым, Зянон Пазьняк не з'яўляецца польскім нацыяналістам. Ягоныя карані, гэта карані беларускіх барацьбітоў за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны.

Беларускія каталіцкія ксяндзы ў міжваенны перыяд вельмі часта былі рэпрэсаваны польскімі санацыйнымі ўладамі. Забаранялася ім весці душпастырскую працу ў парафіях, праводзіліся чарговыя вобыскі, канфіскаты беларускіх часопісаў, высыланне са сталага месца пражывання ў іншыя мясцовасці. Кс. А. Станкевіч сасланы быў з Вільні ў Слонім. Кс. Язэп Германовіч па загадзе дзяржаўных і касцельных улад высланы быў на місійную працу у Маньчжурыю (Кітай) без права вяртання ў Айчыну. Пасля вайны да 1967 г. прабываў у зняволенні ў савецкіх лагерах на Сібіры. Закід, што каталікі ствараюць на Беларусі нейкую пятую калону — недарэчны. З такімі людзьмі, якія займаюцца хлуснёю ды падманам не варта весці палеміку. Аб іхняй крывадушнасці сведчыць тое, што скрываюцца за выдуманымі псеўданімамі, каб не паказаць чытачам сваё праўдзівае аблічча.

**Праваслаўны чытач „Нівы"**
**Юстын Пракаповіч**

# Згадзіцца з усімі поглядамі немагчыма

Не раз я ўжо думаў напісаць на тэму, якая часта паяўляецца на старонках „Нівы", а менавіта: Беларусь і яе абаронцы — беларусы ў Польшчы. Кожны мае свой розум ды права выказваць свае думкі і погляды, але навязваць іх людзям, якія гэтага не хочуць, не павінен. Я згодны з поглядамі нашых чытачоў, якія публікаваліся ў рубрыцы „Наша пошта" ў „Ніве" ад 16 чэрвеня 1996 г.

Я ведаю Алега Латышонка і Яўгена Мірановіча як адукаваных, самастойных і разумных людзей, але згадзіцца з усімі іх поглядамі немагчыма. І гэта няпраўда, што хто-колечы з беларусаў жадае ліквідацыі дзяржавы Беларусь. Усе мы жадаем, каб была яна самастойнай дзяржавай, вольнай, каб людзям жылося як найлепш. Ведаем яе гісторыю. Ведаем, што большая частка народа выказваецца за цесныя сувязі і супрацоўніцтва з Расіяй, а не з Польшчай.

Многа гора перанёс беларускі народ ад сталінскіх рэпрэсій. Але яшчэ больш гора паспытаў ён на працягу стагоддзяў ад Польшчы. Мала бракавала, каб зусім загінула праваслаўная вера, вера нашых беларускіх продкаў. Акаталічванне праходзіла па ўсёй краіне. І цяпер гэтыя паны Пазьнякі і яму падобныя імкнуцца да гэтага самага. Для іх незалежная Беларусь — гэта каталіцкая Беларусь. І з гэтым беларускі народ не хоча пагадзіцца. Думаю, што і нам тут на Беласточчыне гэта не павінна быць абыякавай справай.

Прыйшлося мне некалькі разоў пабываць у Беларусі. Народ быў вельмі занепакоены, калі пасля перабудовы і развалу Савецкага Саюза нахлынула на Беларусь значная колькасць каталіцкіх ксяндзоў і іншых прапаведнікаў каталіцызму. Спадар Мірановіч, вы напісалі: „Ні Пазьняк, ні Шушкевіч, ні Статкевіч, ні Грыб, ні Шушкевіч — гэта не „польскія нацыяналісты", а толькі каталікі". Я хачу вам сказаць, што, на жаль, усе польскія каталікі з'яўляюцца польскімі нацыяналістамі. Мы гэта на Беласточчыне вельмі моцна адчуваем. Прыкладаў гэтаму ёсць вельмі многа. І таму Пазьняка і яму падобных не трэба бараніць. Бараніць трэба Беларусь. Я бараніў яе і заўсёды буду бараніць.

Я не пагаджаюся з усімі поглядамі Аляксандра Лукашэнкі. Вельмі дрэнна, што разганяюцца мірныя дэманстрацыі, што народ пазбаўляецца правоў. Але вельмі дрэнна, што на мітынгу, прысвечаным чарнобыльскай трагедыі, Пазьняк, замест ушанаваць ахвяры Чарнобыля, ушаноўвае смерць Дудаева. А нашы журналісты пра гэта маўчаць.

Спадзяюся, што Беларусь будзе незалежнай дзяржавай. Няхай жыве Беларусь!

**Ваш сталы чытач**
**з Бельска-Падляшскага**

**Ад рэдакцыі:** Паважаны Наш сталы чытач! Нам усё адно з кім сябраваць будзе Беларусь — з Польшчай, Расіяй, Кітаем ці Ізраілем, але хай гэта будзе дзяржава Беларусь, а не губерня Беларусь, хай жыве там **НАРОД** са сваёй мовай, культурай, а не многамільённая сацыяльная група. На жаль, кіруючыя Беларуссю асобы хацелі б, каб было наадварот. А мы не маем абавязку іх паважаць.

# Ad vocem

У 25 нумары „Нівы" за 1996 год я захаваўся як рэкрут, а зараз хачу павесці сябе як дыпламат і эрудыт. Бо гэтае кароценькае „стосовне" загучыць аж у трох мовах: лацінскай, беларускай і рускай: „... Ты поймёшь меня, друг, Ты поймёшь..."

**Васіль Петручук**

**Ад рэдакцыі:** А мы всё-такі не поняли...

# Гісторыя Колі

Коля быў найменшым дзіцём Дарафея і Каці. Калі ён нарадзіўся, найстарэйшая сястра была ўжо замужам. Чатыры сёстры — у дзеўках, думалі ўжо пра замужжа, а браты таксама ўжо агладаліся за паненкамі. Праз некалькі гадоў усе старэйшыя дзеці пакінулі бацькоўскую хату. Коля ахвотна забаўляўся з суседскімі дзецьмі. Ціхмянага і ветлівага хлопчыка не раз празывалі і білі аднагодкі, і ён з плачам вяртаўся да мамы. Бацькі біткіх хлопцаў не раз адлупцавалі сваіх непаслушных сыноў і ўгаварвалі малога: „Ты ім не дaруй, адбівайся! Ёсць жа ў цябе рукі!"

— Я не ўмею біцца, — хныкаў хлопец, — я хачу жыць з імі ў згодзе...

— Божа мой! — ламаў рукі бацька. — Як жа ён будзе жыць у свеце?! Усе на ім паедуць!

Коля вучыўся сярэдне. Настаўнікі не наракалі, хвалілі за ветлівасць і памяркоўнасць.

Калі Колю споўніўся дзесяты год, памерлі яго бацькі — спачатку бацька меў інфаркт, а маці праз паўгода — на туберкулёз. Хлопцам заняліся браты і сёстры — у кожнага з іх жыў па паўгода. Закончыў прафесіянальную школу.

Пасля арміі ажаніўся з Люцынай, ветранай жанчынай. Любіла яна іншых мужчын. Нарадзіла Колю сына. Дзіцём займаліся маці Люцыны з Колем, калі вярнуўся з працы. Люцына найчасцей праседжвала ў п'янай кампаніі. Усё ж муж ёй злога слова не сказаў

Коля працаваў токарам, зарабляў добра. Меў надзею, што жонка пасталее, супакоіцца. Не раз знаходзіў яе з чужым мужчынам у ложку. Біць не ўмеў, хоць гэтыя паводзіны былі на смех людзям.

— Дурны ты, Коля, — папракалі яго сябры. — Такой к..., як твая Люцына, толькі адсячы дурную галаву, бо інакш не папрaвіцца! Пасядзеў бы ты ў турме, але не меў бы ліха на гарбе! Як яна табе дзіцё выхавае!

Цешча таксама шмат пакутавала ад такой бесталковай распуснай дачкі, лаяла яе, прасіла, біла нават, але Люцына адказвала: „Я сваё ведаю! Мне так добра жыць! А біць мяне ўжо запозна!"

Калі Янушку споўніліся тры гады, бабуля памерла. Цяпер усе клопаты зваліліся на бацьку. Стараўся дагадзіць малому, каб не адчуў недахопу ласкі. Калі меў прэтэнзіі да жонкі, тая адказвала: „Чаго мне „супакойвацца"? Сына я табе нарадзіла, у пасцелі ўмею дагадзіць, тое-сёе звару ды памыю. Ну, чаго табе больш трэба?! Ты цешся, што мяне хваляць яшчэ і іншыя. Відаць, я яшчэ тое-сёе вартая!"

Янушак у свае пятнаццаць ужо піў алкаголь і курыў. Бацькі зусім не слухаў, а для маці стаў выдатнай кампаніяй — такі разумны, дарослы сын! Умее нават „падцягнуць" што-небудзь з бацькавага кашалька! І дурнем умее старога назваць, які адважны і самастойны! Мае свой розум хлопец!

— Як мне жыць!? — скардзіўся Коля суседцы. — Калі ўжо маё адзінае дзіцё называе мяне дурнем?!

— Я табе адкрыта скажу: ты горш бабы. Да чаго ты дапусціў? Ты мужчына, ці не? — узлавалася Верка. — Калі б ты сваю Люську адлупцаваў быў добра не адзін раз, то так не было б, а таму гаўнюку таксама трэба морду пачасаць! Дакажы ўрэшце людзям, што ты — гаспадар і мужчына!

— Не магу я так, каб біць. Не ўмею...

Коля хутка пасівеў. Захварэў на сэрца. Адправілі яго на пенсію. Сівым дзедам ды недалужным старэчам абзывала яго сямейка.

Аднойчы пайшоў Коля на шпацыр. Зрабілася яму блага, упаў. Гэта быў канец.

Люська і Янушак не пераняліся смерцю Колі. Прапілі грошы за яго пахавіны. Нават магілку ні разу не наведалі — помнік паставілі Колевы браты і сёстры. Старэйшая сястра Колі, Анюта, плача, што таму яе наймалодшы брат так молада памёр, бо добры быў.

**Аўрора**

# ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**7 ліпеня**

1572 г. — памёр Зігмунт ІІ Аўгуст, польскі кароль, апошні з роду Ягелонаў.

1800 г. — нар. Густаў Малер, аўстрыйскі кампазітар.

1882 г. — нар. Янка Купала.

1902 г. — нар. Віторыо дэ Сіка, італьянскі акцёр і рэжысёр.

1930 г. — памёр Артур Конан Дойль, англійскі пісьменнік.

1937 г. — з перастрэлкі між кітайскімі і японскімі салдатамі ў Пекіне пачалася японска-кітайская вайна.

**8 ліпеня**

1621 г. — нар. Жан Лафантэн, французскі паэт.

1709 г. — расійскі цар Пётр І перамог пад Палтавай войскі шведскага караля Карла XII, у выніку чаго Расія захапіла Фінляндыю, Эстонію і Лівонію.

1837 г. — нар. Фердынанд Цэпелін, нямецкі авіяканструктар.

1989 г. — у Аргенціне прэзідэнт Менем памілаваў высокіх афіцэраў, абвінавачваных у парушэнні правоў чалавека. Рашэнне выклікала абурэнне ў свеце.

1994 г. — памёр Кім Ір Сен, карэйскі палітык.

**9 ліпеня**

1762 г. — у выніку звяржэння з трона мужа Пятра III, Кацярына II уступае на расійскі трон.

1877 г. — пачатак першага тэніснага турніру ў Вімбледоне.

**10 ліпеня**

1509 г. — нар. Ян Кальвін, французска-швейцарскі рэлігійны рэфарматар.

1593 г. — Вільгельм Аранскі, нідэрландскі змагар за незалежнасць, заштылетаваны ў Дэльфт каталіцкім фанатыкам.

1851 г. — памёр Луі Дагер, французскі прадвеснік фатаграфіі.

1940 г. — пачатак авіявайны за Англію.

1962 г. — у ЗША запушчана *Telstar 1*, першы тэлекамунікацыйны спадарожнік Зямлі.

1991 г. — Барыс Ельцын абраны першым прэзідэнтам Расіі.

**11 ліпеня**

1302 г. — у „шпоравай" бітве пад Кортрэйк фландрыйскія цэхі перамаглі французскае рыцарства і запэўнілі Фландрыі незалежнасць ад Францыі.

1937 г. — памёр Джордж Гершвін, амерыканскі кампазітар.

1986 г. — у ЗША ўпершыню засуджана на смерць 16-гадовая дзяўчына Пола Купер за забойства катэхеткі.

**12 ліпеня**

1536 г. — памёр Эразм Ратэрдамскі, нідэрландскі тэолаг і гуманіст.

1884 г. — нар. Амадэо Мадыльяні, італьянскі мастак і архітэктар.

1904 г. — нар. Пабла Нэруда, чылійскі паэт.

1990 г. — Барыс Ельцын выступіў з КПСС.

**13 ліпеня**

1793 г. — французская рэспубліканка Шарлот Кардай у знак пратэсту супраць тэрору заштылетавала прэзідэнта якабінскага клуба Жана Мара.

1894 г. — нар. Ісаак Бабель, расійскі пісьменнік.

1949 г. — папа Пій XII адлучыў ад Касцёла ўсіх каталікаў — членаў кампартыі. **(Ш)**

# ПАРНАСІК

## Справядлівасць

Ой, той пан быў прыгожы, прыгожы,
І казаў мне: я паеду, а ты бяжы.
Думаў, што ён вяльможны, вяльможны,
І ніхто яго зняць не зможа, не зможа.
А я сёння у Пана, у Пана,
Чую голас: „Дзіцятка кахана..."
Бо у Бога ёсць сіла, ёсць сіла, ёсць сіла,
Што зладзеяў згасіла, згасіла, згасіла.

## Дацэнт

Ой, хацела цаніці дацэнта, дацэнта,
А ў яго ні цэнта, ні цэнта,
Любіць толькі віно піці, шмат піці,
Папіроску і цыгарку курыці, курыці.
Ой, мой Божа, мой Божа, што то будзе,
Бо з маім дацэнтам гора будзе, ой, будзе.
Ой, лепш мне ў адзіноце самотнай жыці,
Не дацэнта, але Бога хваліці.

**Мар'я Пень**

## Паварот у жыцці

Гадзіна за гадзінай
Пагоркамі, далінай
Ляцім мы і ідзём
Ноччу, як і днём.
Ніхто не спыніць час:
Ні Ленін, яго клас,
Ні Саламон, яго развага,
Ніякая гарачая адвага.
А мы ляцім упрарод,
Не страшны паварот.
За што маглі б зачапіцца —
Нанова нарадзіцца.
Учарашні дзень прапаў
І сённяшні настаў.
І гэты прападзе
У радасцях, бядзе.
Хто нарадзіўся — новы чалавек!
Назначан яму век —
Якой дарогай ісці і колькі,
Салодкай, а мо горкай.
А хто ў нябыт пайшоў,
І што ён там найшоў?
А смерць смерці няроўная —
Аб гэтым сведчыць Евангелле слоўнае.
І хто з Хрыстом, таму жыць,
Жывому Богу паклоны біць;
Вечна будзе радавацца,
Ніколі не злавацца.
А хто без Хрыста адышоў у зямельку,
Будзе мець сваю мерку.
Яна не зайздросная,
Пякельная і злосная.
А час, жыццё ляціць,
Нам трэба жыць.
Як пралажылі сваю дарожку,
Будзем ісці па ёй сваёю ножкай.
Чужы па ёй не пойдзе,
Сваю толькі знойдзе.
Можам нанова нарадзіцца,
У Збавіцелі Хрысце пасяліцца.
Ды гэта на павароце
І ў духоўнай свабодзе.
Паварот круты і часта небяспечны,
Ды мэта яго — Хрыстос вечны.

**Мікалай Панфілюк**



*Свойскі краявід.* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Ліпень у народных прыкметах

Ліпень — косіць і жне, доўга спаць не дае.

Хто ў ліпені на полі пацее, таго ўзімку і печка пагрэе.

Ліпень што спаліць агнямі, тое залье дажджамі.

Мужыку лета, што святому рай.

Ліпень — краса лета, сярэдзіна цвету.

Мноства ягад летам прадвяшчае халодную зіму.

Ліпень — макушка лета, снежань — шапка зімы.

Дажджлівае лета горш восені.

Пчолы сядзяць на сценках вулля — да спякоты.

Увечары моцна трашчаць конікі — да добрага надвор'я.

Як Ганна дажджом — дык гарох з чарвяком.

Відаць многа павукоў — на добрае надвор'е.

**Падборку зрабіў**
**Янка Целушэцкі**

# ВЕР – НЕ ВЕР

Астроне! Маёй маме прысніўся такі сон. Быццам у небе ляцяць птушкі. Вялікая чарада, іх мноства. І раптам яны пачынаюцьваліцца ўніз. Мама падыходзіць бліжэй, глядзіць, а гэта не птушкі, а людзі. Чуе размову: „Праўда, праўда, што сусед павесіўся!"

Мы з мамай вельмі непакоімся, што гэты сон можа абазначаць. Ці чакае нас нешта кепскае?

**Нінка**

Што абазначае, Астроне, калі сніцца падарожжа? Мне прыснілася, праўда, што я ямчэ нікуды не выехаў, але збіраўся ў падарожжа. Добра гэта ці кепска?

**Алег**

А мне прыснілася, што памерла мая сястра. Я вельмі перажываю, плачу. Ці не пагражае ёй нейкая бяда?

**Міхась**

Адказваю. Нінка! Сон тваёй мамы можа прадвяшчаць нешта нядобрае. Птушкі — гэта ж радасць. Яны ляцелі ў небе вялікай чарадою. Абазначала б гэта добрае, каб не пачалі яны валіцца ўніз. Наступяць, значыцца, у жыцці твае мамы нейкія справы, звязаныя з вялікімі клопатамі, тым больш, што замест птушак яна ўбачыла падаючых людзей. Мо здарыцца нейкая трагедыя сярод вашых блізкіх. Пачула ж яна да ўсяго гэтага, што сусед павесіўся.

Алег! Падарожжа абазначае перамену на лепшае, наогул нейкія змены ў жыцці, нават калі ты толькі збіраўся ехаць.

Міхась! Твой сон якраз някепскі. Калі прыснілася табе, што сястра памерла, значыцца будзе яна жыць доўга і шчаслівя. Твае слёзы таксама гавораць за гэта.

**Астрон**

# Віраванка з „Т"

1. планета, 2. чалавек-малпа, 3. адозва, 4. цырыманіял, 5. напр. залатоўка, 6. парабак, 7. прыцягвае жалеза, 8. зэдлік, 9. чытае лекцыі, 10. калектыўная дапамога ў сельскіх работах, 11. частка радыёпрыёмніка або перадатчыка. **(Ш)**




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 20 н-ра:** струна, Утрата, Авейру, Йоруба, градус, штукар, абажур, Шурбак, барсук, Сатурн, Урумчы.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока і **Марціну Мялешку** з Катоўкі.

Ніва

**„Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 421-033.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1996 r. upływa 5 września 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Эпіграмы з антыподаў

**Мікола Ваўранюк**

Мне здаецца — не манюка, не *вранюк*.
Праўду піша, што цяпер
адбываецца на свеце
ў штотыднёвіку-газеце.
Не залазіць у тыя „дэбры"
старажытнасці сівой.
Моцна ён даець пад рэбры
некаторым апанентам,
праўду-матку рэжа, веру,
і няшмат псуе паперы.
Ён і сведка-аналітык,
да таго — вялікі крытык
рэчаіснасці будзённай,
не менш важнае, штодзённай.

**Сымон Шаўцоў**
**Аўстралія**




*Малюнак А. Гармазы*

Алекса Вусік

# Не закрывай рот!

Я панёс хворыя зубы да лекара. Дачакаўся чаргі, сеў у крэсла і падрыхтаваўся да экзекуцыі.

— Раскрыйце рот, — папрасіў мяне лекар, — яшчэ шырэй. Яшчэ, яшчэ... Шаноўны, вы можаце раскрыць рот па-людску? Разяўляйце, не бойцеся. Стоп! Гэта вы ўжо раскрылі, прабачце, не па-людску, а па-бегемотаваму. Здайце трошкі назад. Вось так. Малайчына! Так і трымайце. Зараз я пагляджу, які ў вас зуб хуліганіць. Та-а-кс... Вось ён, разбойнік! А побач — другі. Што ж, будзем пламбіраваць. Пакуль што можна закрыць рот!

Лекар падрыхтаваў інструмент, настроіў бармашыну і... калі дзірка была амаль прасвідравана, у зубны кабінет зазірнула санітарка.

— Усім на лекцыю! — скамандавала яна звонкім маладым голасам. Лекар выключыў бармашыну і замяўся.

— Вы, калі ласка, пасядзіце ў крэсле і не закрывайце рот. Я хуценька. Адна нага там — другая тут...

Праз хвіліну ён вярнуўся ўсхваляваны.

— Не закрывайце рот, чуеце? Я на пару хвілін...

Прайшло пяць хвілін, дзесяць... А доктара ўсё не было. Яно б нічога, можна было б ляжаць у крэсле, калі б не зводзіла скіўіцы. Бо, як было загадана — рот я стараўся не закрываць.

Каб лягчэй было трымаць рот разяўленым, я прыдумаў рацыяналізацыю: прасунуў паміж зубоў карабок запалак. Зрабіў скіўіцам расцяжку.

Прайшло яшчэ дзесяць хвілін. Пятнаццаць... Заглянулі ў кабінет дзве бабулі, якія стаялі за мной у чарзе. Убачылі мяне з карабачкай запалак у зубах, пачалі шаптацца:

— Гэта, напэўна, новы метад лячэння.

— Ага. Перад тым, як ставіць пломбу, добра праветрываюць рот. Тым, хто еў часнок або цыбулю.

Хацеў я ім адказаць, але тут вярнуўся лекар.

— Прабачце, — кажа, — выйшла непрадбачаная замінaчка. Толькі што выступаў прыезджы экстрасенс, не было як адарвацца. Усе яго слухалі з разяўленымі ратамі. Вось як вы зараз... Даставайце каробачку з рота і паехалі далей...

У рэшце рэшт дакруціў ён мне дзірку ў зубе, паклаў лекі, нечым заляпіў і загадаў:

— Я вам паставіў часовую пломбу. А за пастаяннай прыходзьце ў наступны панядзелак. Хаця не, пачакайце, — спахапіўся лекар. — У панядзелак не прыходзьце, бо ў нас на гэты дзень прызначаны сход садаводаў. У аўторак... У аўторак таксама не трэба. У нас — санкцыяніраваны мітынг... У сераду... Серада таксама адпадае — рэпетыцыя драмгуртка. Чацвер...

— Дарагі лекар, — не вытрымаў я. — Калі ж вы працуеце, калі ў рабочы час праводзіце сходы і мітынгі, слухаеце лекцыі і развучваеце драматычныя ролі?

Лекар вінавата развёў рукамі.

— Што праўда, то праўда... На пламбіраванне зубоў у мяне вечна не хапае часу.

*Пераклаў з украінскай*
*Валерый Бабей*

# Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Я, як чалавек глыбока веруючы, сама ведаю, што ў даны момант грашу, пішучы пра бацьку. Яшчэ горш, што бацька ўжо не жыве — памёр год таму назад. Засталася мама — хворая, замучаная жыццём і мужам. Сэрца сціскаецца, калі гляджу я на яе.

А тата жыў, быццам нейкі цар. Усё было дзеля яго. Ён быў у хаце найважнейшы, а не жонка, не дзеці. Я, пакуль была малая, не разумела, чаму мама так часта плача. Пасля многае ўжо разумела з іхніх начных размоў, калі бацька вяртаўся познім вечарам п'яны, а мама папракала яго.

Праўда, бацька быў больш адукаваны, „інтэлінет", а мама была простай жанчынай з вёскі, з пачатковай усяго адукацыяй. Цэлае жыццё, аднак, цяжка працавала, каб утрымаць дом і дзяцей. Бацька грашыма ў хаце не раскідаўся, затое на гульні, забавы сабе не шкадаваў.

Мама старалася браць нейкую дадатковую працу дахаты, каб дарабіць грош дзецям, а ён працай не пераймаўся. Мама была і ёсць душа-чалавек, а бацька ў хаце вечна бурчаў, усё яго тут раздражняла, абкідаў брата і мяне (не гаворачы ўжо аб маме) брыдкімі словамі. Сёння проста ўявіць сабе не магу, як мы гэта пераносілі.

Але калі б было гэта ўсё! Калі я стала дарослай жанчынай, зразумела, якія мукі цярпела мама, ведаючы, што бацька вяртаецца так позна ад іншай жанчыны. Не, не закахаўся ў іншую, адну, лепшую за маму. Змяняў баб, як рукавічкі. Проста любіў гэту „работу". Відаць, меў вялікія сексуальныя патрэбы, а змучаная мама яму ўжо не адпавядала. Калі хацеў каторую зацягнуць у пасцель, дык гатоў быў аддаць ёй усё — не толькі грошы.

Калісь мама купіла бацьку вельмі прыгожы сігнэт. Доўга адкладала на яго грошы, збірала і купіла, каб бацька не быў горшы ў сваім асяроддзі. Бацьку гэты пярсцёнак вельмі падабаўся. Марыў пра такі вялікі, масіўны, — гаварыў ён маме.

Праз некалькі гадоў бацька прыходзіць без сігнэта. Мама пытае, дзе ён, мо згубіў недзе. А бацька нават не прабаваў крывіць душою, ашукваць, што згубіў. Ён пачаў рагатаць ды кажа: „Бабка была такая добрая, што я не мог вытрываць і ўзнагародзіў яе!"

Што мы перажылі тады, цяжка расказаць. Справа ўжо тут не толькі ў матэрыяльных стратах, але ў той брутальнай, нечалавечай паставе майго бацькі. Не падумаў ён, колькі горкіх слёз выліла тады мама. Плакала ўначы, ціха, думаючы, што ніхто тады яе не чуе...

Здарылася так, што бацька захварэў так нечакана, як быў здароў заўсёды. Рак! Якое страшнае слова! Валяўся ў бальніцах цэлымі месяцамі, у канцы ляжаў ужо ў Варшаве, а мы штодзень ездзілі да яго з цёплай хатняй стравай.

Мама давала з сябе ўсё, як рабіла гэта цэлае жыццё. Ехала ў тую Варшаву, як каханая жонка да свайго мужа, забыўшыся пра ўсе свае крыўды. І бацька, бачачы нас у бальніцы, глядзеў на нас цёплымі вачыма. Пакаяўся ў канцы жыцця, перад самай смерцю. Перапрашаў маму. І тады я ўпершыню ўбачыла, што і бацька ўмее плакаць. Але што ж, усё ўжо было па часе...

**Анэта**

Анэта! Сапраўды твой бацька плакаў, бадай, па сабе, а не з тае прычыны, што крыўдзіў вас усіх тады, калі яго жыццё было лёгкае і радаснае. Былі гэта слёзы роспачы па яго адыходзячым жыцці, а не з суму па тых, што застаюцца, — па вас.

Але, дзякуй Богу, калі вам здалося, што ён пакаяўся — прынамсі мама будзе спакайнейшая. Не гавары ёй ні слова, што магло быць інакш.

**Сэрцайка**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Пасля раскошнай ночы каханак цалуе каханку ды збянтэжана шэпча:

— Мушу табе сказаць прыкрую праўду: я — жанаты...

— Ну і перапужаў ты мяне: пачаў гаварыць такім тонам, што я падумала, быццам мне самаход з-пад дома ўкралі...

* * *

— Ці гэта праўда, што ніводная жанчына не ўмее стрымаць таямніцу?

— Дзе там! Вось я з жонкаю ўжо пятнаццаць гадоў пасля шлюбу, а да сёння не ведаю, на што жонка штомесяц выдае маю зарплату.

* * *

— Ці не думала ты ніколі заняцца адмаладжваючай працэдурай?

— Не! Мой муж на гэта не заслужыў.

* * *

У сямідзесятыя гады польская прапаганда з пагардаю прадстаўляла культуру Захаду. Прапагандысцкай істотай тамашняй прагніўшай цывілізацыі быў стрыптыз. Аднойчы адна пажылая дама пабывала на Захадзе. Калі вярнулася, муж пытае:

— Ну і як там: бачыла стрыптыз?

— Бачыла.

— А што гэта папраўдзе такое?

— Зараз табе пакажу, — адказвае дама і пачынае распранацца ў рытм музыкі.

— Ну і праўду пра яго гавораць, — ацэньвае мужчына. — Сапраўды гэта кашмарнае відовішча.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Учора ў гасціне ў Кавальскіх Новакава дабілася вялікага поспеху: усе звярталі на яе ўвагу. Гэта перш за ўсё з-за спадніцы.

— Як гэта?

— Увесь час прытрымоўвала яе рукою.

* * *

— Ужо два месяцы задумоўваешся, які купіць самаход, а мне запрапанаваў шлюб ужо па трох днях знаёмства, — папракае жонка мужа.

— Але ж, каханая, як можаш параўноўваць гэтыя дзве падзеі?! Купля самахода гэта сур'ёзная справа!

* * *

Паспрачаліся муж з жонкай:

— Пакідаю цябе назаўсёды і выязджаю да мамы. Дай мне толькі сорак злотаў на білет.

— Білет жа каштуе толькі дваццаць...

— А назад!?.

* * *

— Чаму яшчэ ні разу не адведала вас жонка? — пытае медсястра хворага на траўматалагічным аддзяленні.

— Бо яна ляжыць у шпіталі.

— Разумею. Сямейная трагедыя...

— Так, толькі яна пачала першай.

* * *

Пажылыя мужчыны ўспамінаюць мінулае:

— А помніце нямое кіно?

— О! Гэта было цудоўна. На экране баба вішчыць, а ты нічога не чуеш.